Адна зямля

Мядзел
Астравец
Смаргонь
Вілейка
Маладзечна
Мінск


# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

8 жніўня 2014 года №32 (1006)



**Расстрэл яўрэяў у Валожыне**
Гавораць сведкі: Ніна Галіеўская, Валянціна Грабоўская і Ніна Васілеўская
старонка 21

**Ці праблематычна памяняць сантэхніку ў кватэры**
Сваёй гісторыяй пра тое, як памяняць унітаз і зэканоміць на паслугах сантэхнікаў, звярнуўшыся ў ЖРЭУ, а не да прыватнікаў, падзялілася Ганна Тамковіч
старонка 3

**Адпачыць на нарачанскіх азёрах**
с. 5

**Пракуратура: Вайніцкі скончыў самагубствам**
с. 4

**Аўтобуснаму вакзалу Маладзечна – 45 гадоў**
с. 2


## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Ашмяншчына сустрэла факельную эстафету

**АШМЯНЫ.** 2 жніўня Ашмяншчына сустрэла факельную эстафету "Бег сяброўства і свету". Маршрут эстафеты праляжа праз трынаццаць гарадоў Беларусі, сярод іх Смаргонь, Маладзечна, Заслаўе. Агульная адлегласць, якую пераадолеюць бегуны ў Беларусі, складзе 750 кіламетраў. Спартсмены стартавалі сёлета ў лютым. Прабегліся па тэрыторыі 47 краін. Фінішуюць 7 кастрычніка ў Белградзе.

### Спаборнічалі санітарныя дружыны

**МЯДЗЕЛ.** 1 жніўня ў Мядзельскім раёне прайшлі абласныя спаборніцтвы санітарных дружын грамадзянскай абароны Мінскай вобласці. У іх удзельнічалі 23 каманды. Яны паказалі, як трэба дзейнічаць падчас інфекцыйных захворванняў, камбінаванага і хімічнага паражэння. Паўдзельнічалі ў конкурсе мастацкай самадзейнасці.

**Аддзел інфармацыі.**



# За год першакласнік "падаражэў" на мільён

Колькі грошай трэба, каб адправіць дзіця ў школу?
**Лічым разам!**

**Танны варыянт**
1 мільён 650 тысяч рублёў
230 тысяч рублёў

**Дарагі варыянт**
2 мільёны 300 тысяч рублёў
660 тысяч рублёў

Інфаграфіка Настассі РОЎДЫ.

**МАЛАДЗЕЧНА. Тыя бацькі, чые дзеці пойдуць першы раз у першы клас, ужо атрымалі спіс рэчаў, неабходных першакласніку. "Рэгіянальная газета" высветліла, якую суму варта падрыхтаваць бацькам перад паходам па магазінах.**

Спіс мы складаем разам з настаўнікамі пачатковых класаў, – кажа **Іна Шыянок**, псіхолаг маладзечанскай СШ №5. – Ён сапраўды неабходны, бо на кожнай сустрэчы з бацькамі будучых першакласнікаў абавязкова ўзнікаюць пытанні наконт таго, што пакласці ў ранец дзіцяці.

– Вядома, – працягвае яна, – мы даём толькі агульныя рэкамендацыі. Бацькі ўжо самі выбіраюць, дзе і па якім кошце набываць рэчы. Напрыклад, даём парады пра тое, каб у ранцы былі шырокія лямкі. А ручкі для пісьма – рабрыстай формы. Менавіта такой дзіцяці зручней усяго будзе пачынаць пісаць.

Праграма навучання таксама мяняе набор неабходных рэчаў. Некаторыя настаўнікі вучаць дзяцей лічыць разам з лічыльнымі палачкамі, некаторыя – без. Гэтыя дробязі абгаворваюцца пры паступленні ў канкрэтны клас.

### У маці першакласніцы валасы сталі дуба

Спіс значна падаражэў пасля таго, як у школах увялі дзелавы стыль адзення. Школьная форма, хоць яе і часцей за ўсё можна набываць на любы густ і кошт, дадала клопату бацькам. Сёлета на форму давядзецца патраціць 1,5-2 мільёны.

Маці першакласніцы **Святлана** падзялілася сваімі ўражаннямі ад паходу па магазінах:

– Паглядзела сарафан і блузку для сваёй дачкі. У мяне валасы на галаве сталі дуба, калі я ўбачыла цэны! Блузка для дзяўчынкі ў некаторых з іх каштуе як адзенне для дарослага! Канешне, усё прыгожае, аднак жа дзеці растуць, усё даводзіцца купляць кожны год.

Канцылярскія тавары разам з формай зацягнуць каля мільёна. Вядома, выніковая сума залежыць ад таго, куды вы хадзілі за абноўкамі – на рынак ці ў краму.

Мы праводзілі свае падлікі ў адной з крамаў Маладзечна. Дарэчы, летась па такіх жа падліках "Рэгіянальнай газеты" сабраць першакласніка ў школу каштавала ў сярэднім два мільёны рублёў. Па сёлетніх падліках гэта абыдзецца ў тры мільёны.

**Галіна СІНІЦА, Аляксандра ПАРАХНЯ.**

### Што трэба набыць да школы

Спіс, па якім мы вялі падлікі, рэкамендавалі маладзечанскія настаўнікі, яго можна знайсці на сайце "Рэгіянальнай газеты".

У яго ўваходзяць два сшыткі ў вялікую клетку, тры – у вузкую лінейку, папка для іх, абгорткі для кніг і сшыткаў, закладкі, два блокі для малявання, набор каляровай паперы і кардона, каляровыя алоўкі (не менш за 12 штук), набор фламастараў.

У пенале павінна быць дзве ручкі, два простыя алоўкі, лінейка, тачылка, ласцік. Таксама нажніцы у чахле, клей ПВА, клей-аловак, пэндзаль для клею і для фарбаў, акварэльныя фарбы, кубачак-невылівайка, пластылін, цыратка, 30 файлаў, кнопкі ці сашчэпкі.

З сабой трэба ўзяць і дзве расфарбоўкі, настольную гульню. Не забудзьцеся купіць спартыўную форму і абутак.

А яшчэ заплечнік, школьная форма і зменны абутак, у якіх ваша дзіця будзе хадзіць у школу. Мы іх таксама ўзялі ў разлік.

Падрабязную табліцу з коштамі шукайце на нашым сайце.

Rh.by



Фота Наталі ТУР.

Перон чакання аўтастанцыі ў Маладзечне. Штодзённа сюды прыязджае і ад'язджае каля 1800 чалавек.

ЮБІЛЕІ

# Аўтобуснаму вакзалу Маладзечна – 45 гадоў

**МАЛАДЗЕЧНА. У жнiўнi вакзал аўтастанцыi Маладзечна адзначае юбiлейную дату.**

На колькi маршрутаў штодзённа адпраўляюцца аўтобусы, якi маршрут самы працяглы? I пра iншыя лiчбы ў гiсторыi аўтастанцыi распавяла "Рэгiянальнай газеце" начальнiк вакзала **Людмiла Бастынец**.

– Жнiвень 1969 – гэта дзень нараджэння другога вакзала ў Маладзечне. Таго, што ёсць цяпер. Самы ж першы аўтобус адправiўся з аўтавакзала, якi знаходзiўся на плошчы, якая сёння завецца Старое Места. I было гэта ў 1949 годзе.

– Час дыктаваў свае ўмовы, – працягвае Людмiла Бастынец, – i праз 20 гадоў будынак, у якiм не было нi каналiзацыi, нi ацяплення, нi водаправода, зразумела, эксплуатавацца больш не мог. Вакзал мусiў пераехаць на вулiцу Прывакзальную. Тады, 45 гадоў таму, так называлася вулiца Лiбава-Роменская.

Будынак новага вакзала працаваў 39 гадоў. Ён умяшчаў 200 пасажыраў, меў камеры захоўвання.

**Маладзечанцы, напэўна, памятаюць гэты будынак з вялiкiмi каляровымi вiтражамi, на якiх былi выявы ўсiх гарадоў, куды курсiравалi аўтобусы.**

Толькi ў 2008 годзе вакзал зачынiўся на рэканструкцыю.

Таксама многiя маладзечанцы памятаюць, як касы аўтавакзала амаль паўтара года размяшчалiся ў старэнькiм аўтобусе "Iкарус".

I вось да свайго 40-годдзя аўтавакзал у Маладзечне змянiўся.

– Цяпер штодзённа, – кажа Людмiла Бастынец, – у касах аўтавакзала абслугоўваецца каля дзвюх тысяч чалавек. У калектыве працуюць 19 работнiкаў. Наш дыспетчар **Таццяна Карцава** працуе на аўтавакзале больш за 30 гадоў. Калi яшчэ казаць пра лiчбы, якiмi ганарымся, то можна назваць лiчбу восемдзесят. Гэта 44 прыгарадныя i 36 мiжгарадних маршрутаў, куды штодзённа адпраўляюцца нашы аўтобусы.

Самы далёкi рэйс – з Мiнска ў Свiр. Яго адлегласць 127 кiламетраў.

### Недахопы вакзала i як з iмi змагацца

Пагутарыўшы з пасажырамi аб тым, якiя недахопы ёсць у аўтавакзала, амаль усе аднагалосна заявiлi: вельмi нязручна, што няма камер захоўвання i да сённяшняга дня не ўсталяваны банкамат. Ну, i тэлевiзар, якi вiсiць у зале чакання, але нiколi не ўключаецца.

Гэтыя пытаннi мы перанакiравалi дырэктару аўтапарка №4 **Яўстафiю Караваю**, якому падпарадкоўваецца аўтавакзал:

– Пра тое, што тут павiнен быць банкамат, мы ведаем. Дамаўлялiся з рознымi банкамi, але нам адмаўлялi. Тлумачылi гэта тым, што на вакзале не так шмат людзей будуць iм карыстацца.

**З адным банкам дамовiлiся, i яны ў хуткiм часе размесцяць свой абменны пункт у будынку вакзала.**

– А камеры захоўвання, – працягвае Яўстафiй Iванавiч, – гэта наша праблема, гэта наш галаўны боль. I перш-наперш, пытанне ў фiнансаваннi. Мяркую, гэтую праблему мы вырашым у наступным годзе.

Дырэктар аўтапарка таксама прыгадаў, што калiсьцi на вакзале працаваў аптэчны кiёск. Але з-за нiзкага тавараабароту ён вымушаны быў пераехаць у больш людное месца.

А сiтуацыю з тэлевiзарам дырэктар пракаментаваў так:

– Пасажыры хочуць глядзець кiно? Калi не будуць спрачацца памiж сабой за тое, якi канал глядзець, сёння ж скажу начальнiцы аўтавакзала, каб уключыла тэлевiзар!

**Наталля ТУР.**



ДА ЎВАГІ ЖЫХАРОЎ

## Забаранілі наведваць лясы і тарфянікі

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад 1 жнiўня забаронены ўезд тэхнiкi i наведванне лясоў i тарфянiкаў ва ўсiх абласцях Беларусi.**

Пра гэта паведамiла прэс-сакратар Мiнiстэрства лясной гаспадаркi **Дар'я Лепешка**.

Падчас забароны дазваляецца праязджаць на аўтатранспарце толькi па дарогах, якiя вядуць да населеных пунктаў, а таксама да ўладкаваных месцаў адпачынку.

За выпальванне сухой раслiннасцi, няскошанай травы, ржышча i таго, што засталося пасля жнiва, прадугледжаны штраф да 40 базавых велiчынь. Такi ж штраф пагражае i ў выпадку, калi вы заўважылi пажар, але не паведамiлi пра гэта спецыяльным службам.

За распальванне кастроў у забароненых месцах – штраф 12 базавых велiчынь.

**Паводле БелТА.**

## Дзе нельга лавіць рыбу

**ВIЛЕЙКА. МЯДЗЕЛ. 2 жнiўня ўступiла ў сiлу пастанова Мiнiстэрства сельскай гаспадаркi i прамысловасцi "Аб пералiку рыбалоўных угоддзяў".**

Згодна з ёй, на тэрыторыi Вiлейскага вадасховiшча, на возеры Боркi, рэках Вiлiя i Iлiя забараняецца лавiць рыбу на дарожку з суднаў з рухавiком, падводнае паляванне.

Таксама на рэках Вiлiя i Iлiя нельга лавiць рыбу аматарскiмi прыладамi рыбалоўства з агульнай колькасцю кручкоў ад шасцi да дзесяцi на рыбалова.

На рацэ Сэрвач, у межах раёна, забараняецца лавiць рыбу на дарожку з суднаў з рухавiком.

### На Мядзельшчыне

На вадаёмах, якiя перададзеныя ў карыстанне Нацыянальнаму парку "Нарачанскi", забараняецца лавiць рыбу на дарожку з суднаў з рухавiком, з прымяненнем прыладаў аматарскага рыбалоўства з агульнай колькасцю кручкоў ад шасцi да дзесяцi на рыбалова. Забараняецца i падводнае паляванне.

На рэках Воўчына i Рудакова дазволена падводнае паляванне па пуцёўках, якiя выдае Нацыянальны парк "Нарачанскi".

Усё вышэй пералiчанае дазволена на вадаёмах фонду запасу Вiлейскага i Мядзельскага раёнаў. Аднак трэба мець членскi бiлет "Беларускага таварыства паляўнiчых i рыбаловаў".

За тлумачэннем прыродаахоўнага заканадаўства можна звярнуцца ў Мядзельскую мiжраённую iнспекцыю аховы жывёльнага i раслiннага свету. Тэлефон для даведак **(8-01797) 5-07-40**.

**Вячаслаў МIНЯНКОЎ, дзяржаўны iнспектар Мядзельскай мiжраённай iнспекцыi аховы жывёльнага i раслiннага свету.**

Да каго звярнуцца, каб памяняць сантэхніку?

| | Прыватнікі | ЖРЭУ |
|---|---|---|
| | Ад 300 тысяч рублёў | 150 тысяч рублёў |
| | 2 дні | Х дзён |

Інфаграфіка Настассі РОЎДЫ.

● КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# Ці праблематычна памяняць сантэхніку ў кватэры

**МАЛАДЗЕЧНА. Сваёй гісторыяй пра тое, як памяняць унітаз і зэканоміць на паслугах сантэхнікаў, звярнуўшыся ў ЖРЭУ, а не да прыватнікаў, падзялілася наша чытачка Ганна Тамковіч.**

– Замена сантэхнікі ў кватэры пачалася з пытання: колькі гэта будзе каштаваць? Прыватнікі ў раздзеле аб'яў у газеце просяць за свае паслугі ад трохсот тысяч рублёў. У цэнніку ЖРЭУ №3 паслугі сантэхнікаў каштуюць 150 тысяч рублёў. Зразумела, трэба выклікаць апошніх.

Раніцай у панядзелак прыйшлі два сантэхнікі, паглядзелі на новы ўнітаз і вынеслі вердыкт: у ім не хапае нейкага неабходнага шланга. Сказалі набыць, а ў другой палове дня зойдуць і ўсталююць. Я пабегла ў магазін, набыла шланг, сяджу чакаю спецыялістаў. У дзве гадзіны дня яны прыйшлі і сказалі, што нічога не атрымаецца, бо зламаўся перфаратар.

Толькі ў аўторак раніцай сантэхнікі дайшлі да месца працы. Знялі стары ўнітаз, паставілі новы. Клічуць мяне:

– Гаспадыня, нясіце цэмент, трэба ўмацаваць вашага керамічнага сябра!

– Які цэмент? – пытаюся я. – Пра цэмент ніхто нічога не казаў!

– Ну, злётайце, купіце. Пяць кілаграмаў павінна хапіць. Мы заўтра прыйдзем.

Сантэхнікі сабралі свае інструменты і пайшлі з кватэры. У прыбіральні застаўся неўмацаваны, не падключаны да вады ўнітаз.

### "Разумееце, ЖРЭУ ў нас бедны"

Я ж вымушаная была ісці за цэментам, але не ў краму, а да майстра ЖРЭУ №3 **Рамана Баравога**.

– У чым справа? – спыталася ў яго. – Чаму мяне прымушаюць купляць цэмент? Я ж плачу грошы за тое, што вы ўсталёўваеце ўнітаз. Цэмент – гэта ваша праблема.

– Разумееце, – адказаў мне майстар, – ЖРЭУ ў нас бедны, грошай на цэмент няма... Але я спытаюся ў начальніка, раптам завезлі.

У сераду сантэхнікі прыйшлі зноў. Ужо са сваім цэментам. Унітаз усталявалі. Карыстацца забаранілі да чацвярга, пакуль не застыне цэмент.

У доўгачаканы чацвер нарэшце схадзіла ў сваю прыбіральню, націснула кнопачку, каб спусціць ваду? і аказалася, што вада ў бачок не заліваецца. Кнопачка засела ў бачку. Тэлефаную сантэхнікам, ледзьве не крычу, каб прыйшлі і выправілі свае хібы. Чую адказ:

– Акей, пасля абеду чакайце.

І зноў да вечара чацвярга, заплаціўшы 150 тысяч, я заходзіла ў прыбіральню з новенькім унітазам, узброіўшыся вядром з вадой...

У сувязі з гэтым наша чытачка папрасіла задаць супрацоўнікам ЖРЭУ №3 пытанне: колькі часу павінен займаць такі рамонт?

Адказвае майстар ЖРЭУ №3 **Раман Баравы**:

– Час на выкананне работ у нас не агаворааны. Тым больш, калі гэта датычыцца ўстаноўкі ўнітаза. Як і ў гэтым выпадку, можа спатрэбіцца зрабіць сцяжку, бывае, што гаспадары хочуць пакласці плітку, а толькі потым паставіць унітаз.

**– А хто павінен дакупляць цэмент ці нейкія неабходныя шлангі?**

– Зразумела, усе неабходныя дэталі і будматэрыялы павінен купляць кватэранаймальнік. Спадарыні Ганне мы, як выключэнне, зрабілі цэментную сцяжку за грошы ЖРЭУ №3.

### А як у прыватнікаў?

Выбраўшы наўздагад тэлефон у раздзеле аб'яў, з тым жа пытаннем мы звярнуліся да прыватніка:

– Калі вам спатрэбіцца заліваць цэмент, то ўстаноўка ўнітаза зойме два дні. Пры гэтым, сцяжкай я не займаюся. Вам трэба спачатку дамовіцца з аддзелачнікамі, якія будуць займацца цэментам ці, калі спатрэбіцца, пліткай. За свае ж паслугі, а іменна, толькі за ўстаноўку самога ўнітаза, я вазьму 40 $.

**Наталля ТУР.**

ЛІЧБА НУМАРА

**145**

Столькі дзён засталося да Новага года

| Курсы валют НБ РБ | 31.07 руб. | 7.08 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 10 310,00 | **10 340,00** |
| Еўра | 13 820,00 | **13 820,00** |
| Злоты | 3 327,74 | **3 294,31** |
| Літ | 4 000,93 | **4 002,01** |
| Расійскі рубель | 288,50 | **286,50** |
| Грыўня | 845,78 | **833,87** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Еўра | 13790/13850 | **13790/13860** |
| Долар ЗША | 10280/10325 | **10310/10360** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 30.07 (Цана руб.) | 6.08 |
|---|---|---|
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 139600 | **139600** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 55900 | **60150** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 26300 | **28800** |
| **Ялавічына** (выразка), 1 кг | 110000 | **110000** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 28900 | **28900** |
| **Селядзец**, 1 кг | 35800 | **35800** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 98700 | **98700** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 9000 | **12500** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 8500 | **8500** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзясятак | 14000 | **14000** |
| **Алей "Масловія"** | 12000 | **13000** |
| **Маянэз**, 200 г | 5500 | **5500** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 11000 | **9800** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 30000 | **30000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 11500 | **9500** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 6050 | **6050** |
| **Капуста**, 1 кг | 3800 | **4000** |
| **Морква**, 1 кг | 7250 | **7000** |
| **Буракі**, 1 кг | 7250 | **4800** |
| **Лімоны**, 1 кг | 20850 | **20800** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 17500 | **17500** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 21200 | **22100** |
| **Памідоры**, 1 кг | 9700 | **7850** |
| **Агуркі**, 1 кг | 10250 | **7850** |
| **Перац**, 1 кг | 14500 | **12000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 27000 | **24500** |
| **Бананы**, 1 кг | 11900 | **12900** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 10300 | **10300** |
| **Грушы**, 1 кг (Дзюшэс) | 19500 | **24500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| **Масла**, 1 кг | 90000 | **90000** |
| **Тварог**, 1 кг | 50000 | **50000** |
| **Бульба** маладая, 1 кг | 4000 | **4000** |
| **Сала**, 1 кг | 100000 | **100000** |
| **Мёд**, 0,5 л | 60000 | **60000** |
| **Яйкі**, 1 дзясятак | 20000 | **20000** |

● ПРАКУРАТУРА, СУД

# Пракуратура: Вайніцкі скончыў самагубствам

**ВІЛЬНЯ. Віленская акруговая пракуратура (ВАП) пацвердзіла, што беларускі грамадскі дзеяч Раман Вайніцкі пакончыў з сабой.**

Калі сталі выяўляцца яго фінансавыя афёры ў віленскай сярэдняй школе імя Францішка Скарыны, паведамляе агенцтва BNS.

ВАП спыніла дасудовае расследаванне аб смерці Вайніцкага, аднак на лаву падсудных сядзе яго хаўрусніца – бухгалтар віленскага муніцыпальнага бюджэтнага прадпрыемства Biudzetiniu įmoniu buhalterine apskaita ("Бухгалтарскі ўлік бюджэтных арганізацый"). Справа бухгалтара, якая падазраецца ў крадзяжы маёмасці, ужо перададзеная ў суд, піша газета Lietuvos rytas.

Калі 6 сакавіка мінулага года ў падвале аднаго з дамоў у Вільні было знойдзенае цела 52-гадовага Вайніцкага, у сувязі з яго смерцю было мноства розных версій.

Рукі і ногі мужчыны былі звязаныя, рот заклеены ліпкай стужкай, перад смерцю ён скардзіўся блізкім і супрацоўнікам на пагрозы, што паступаюць яму.

Пракуроры ўстанавілі, што Вайніцкі пакончыў з сабой такім незвычайным спосабам, калі сталі правяраць яго дзейнасць ў сярэдняй школе імя Скарыны. Высветлілася, што ў яго былі непрыемнасці са сродкамі, якія выдзяляліся школе.

Стала вядома не толькі аб нястачы грошай, якія выдзелілі з фондаў Еўрасаюза, але і пра нястачу сродкаў, якія школа атрымлівала з муніцыпалітэта. Пра гэта паведаміў партал ru.delfi.lt.


Фота ru.delfi.lt.

Летась у падвале аднаго з дамоў у Вільні знайшлі цела 52-гадовага Рамана Вайніцкага.

**Даведка "РГ". Раман Вайніцкі** – прэзідэнт згуртавання беларускіх грамадскіх арганізацый у Літве з 2009 года. Дарадчык прэм'ер-міністра Літвы па нацыянальных пытаннях. Нарадзіўся ў мястэчку Вішнева Валожынскага раёна 17 жніўня 1960 года. Загінуў 6 сакавіка 2013 года.

● СПАБОРНІЦТВЫ

## Выратавальнікі з Мінскай вобласці спаборнічалі ў Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА. Лепшую дзяжурную змену сярод органаў і падраздзяленняў па надзвычайных сітуацыях Мінскай вобласці вызначылі ў Маладзечне 30 ліпеня.**

Дзень гэты быў адным з самых спякотных дзён на мінулым тыдні. З 10 гадзін раніцы, калі каманды з 24-х раёнаў Мінскай вобласці рыхталіся выйсці на старт спаборніцтваў, у цяні было каля 30 градусаў спёкі.

Выратавальнікі ў спецыяльных касцюмах мужна чакалі сваёй чаргі, каб пераканаць суддзяў у тым, што менавіта яны лепшыя з лепшых.

На сёлетніх спаборніцтвах камандам з усёй вобласці, у якіх ўвайшлі па чатыры лепшыя прадстаўнікі са свайго раёна, трэба было паспаборнічаць у чатырох выпрабаваннях.

Першы конкурс быў на апрананне баявога адзення на хуткасць. З гэтай задачай лепш за ўсіх справілася каманда са Слуцка. Іх хуткасць 14,48 секунды.

Затым каманды спаборнічалі ў выпрабаванні на ўстаноўку і пад'ём трохкаленнай высоўнай драбіны на трэці паверх вучэбнай вежы.

На гэтым этапе лепшымі былі прадстаўнікі Вілейкі. Яны справіліся з лесвіцай за 18 секунд.

Два наступныя конкурсы былі такія: дастаць пацярпелых з аварыйнага аўтамабіля і заваламі ліквідаваць аварыі з выкідам моцнадзейнага атрутнага рэчыва. У гэтых этапах першымі былі каманда Маладзечанскага РАНС і каманда пажарнага аварыйна-выратавальнага атрада. Па суме балаў усіх конкурсаў пераможцамі сталі выратавальнікі пажарнага аварыйна-выратавальнага пажарнага атрада Мінскай вобласці. У склад каманды ўвайшлі начальнік змены **Ігар Іваноўскі**, камандзір аддзялення **Павел Бычак**, выратавальнік **Уладзімір Гурскі** і вадзіцель-выратавальнік **Леанід Кулеш.**

Другое месца ў выратавальнікаў са Слуцка, трэцяе месца занялі выратавальнікі з Вілейскага РАНС.

– Такія спаборніцтвы мы праводзім штогод. І кожны год імкнёмся ўносіць новыя элементы, новыя этапы ў спаборніцтв. Лепшая дзяжурная змена вобласці павінна ўмець усё, – пракаментаваў намеснік начальніка Мінскага абласнога ўпраўлення МНС **Аляксей Верабʼёў.**

**Наталля ТУР.**

● ВЫШУК

## Знікла 52-гадовая жанчына

**ВАЛОЖЫН. Трэцяга ліпеня каля дзевяці гадзін знікла Вольга Уладзіміраўна Галавач.**

Жанчына выйшла з рынку, размешчанага па вуліцы Савецкай у Валожыне, і пайшла ў невядомым напрамку. Да гэтага часу яе месцазнаходжанне невядомае.

Нарадзілася 18 кастрычніка 1962 года (52 гады). Жыла ў Валожыне.

**Прыкметы:** на выгляд 50-55 год. Высокага росту (175 і вышэй), поўнага целаскладу, плечы гарызантальныя. Твар прамавугольны еўрапейскага тыпу, лоб сярэдні вертыкальны. Прамыя бровы сярэдняй вышыні, карыя вочы. Нос прамы сярэдняй велічыні. Сярэдні рот і вусны сярэдняй таўшчыні, вертыкальны падбародак, сярэднія трохвугольныя вушы. Прамыя валасы, пафарбаваныя ў цёмны колер, кароткая стрыжка. Глухі голас, выразнае маўленне.

**Асаблівыя прыкметы:** часткова адсутнічаюць верхнія і ніжнія зубы. Каля левага вока шрам, хваравэ на шызафрэнію.

**Юлія СЕЛЯТЫЦКАЯ, старшы следчы Валожынскага раённага аддзела Следчага камітэта, маёр юстыцыі.**



Вольга Галавач.

● СЛУЖБЫ ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ

### Падпалілі сухую траву

**АСТРАВЕЦ.** 6 жніўня ў тры гадзіны на полі ў вёсцы Ізабеліна Гудагайскага сельскага Савета загарэлася сухая трава.

Аб пажары паведаміў мясцовы жыхар.

Туды выехаў пажарна-выратавальны пост. Агонь ахапіў 10 сотак поля. Падчас апытання вяскоўцаў вінаватага не знайшлі. Але мяркуюць, што траву падпаліў чалавек.

Загаранне не нанесла шкоды сельскай гаспадарцы, а таксама маёмасці мясцовых жыхароў.

Пра гэта распавёў інспектар групы прапаганды і навучання Астравецкага райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Алег Шыць.**

**Галіна СІНІЦА.**

### Правозілі праз мытню незаяўленыя тавары

**АШМЯНЫ.** 8 ліпеня на мытню ў "Каменны Лог" прыехаў грузавік "ДАФ" з Літвы.

Кіроўца вёз прамысловы рэдуктар, прамысловую фланцавую муфту, два гіраланы б/у 2006 года выпуску ў разабраным выглядзе. Таксама пілы рамныя, рэшата для сельскагаспадарчай сеялкі, скатную дошку для яе і падбарабаннае рэшата.

Падчас дагляду высветлілася, што замест двух разабраных гіраланаў б/у кіроўца вёз два новыя камплекты для зборкі.

Тавар коштам больш за 1 мільярд і 180 мільёнаў рублёў канфіскавалі.

Пачалі адміністрацыйную справу.

**Па інфармацыі Ашмянскай мытні.**

### Выпіў, узяў машыну сябра і трапіў у ДТЗ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Сёлета ў красавіку два сябры выпівалі.

Быўшы на падпітку, адзін з іх убачыў ключы ў машыне свайго сябра і вырашыў пакатацца па Маладзечне. Не паспеў мужчына далёка адʼехаць, як трапіў у ДТЗ.

Сваю віну ён цалкам прызнаў, раскаяўся ў сваім учынку.

Суд пазбавіў яго волі на два гады без накіравання ў выпраўленчую ўстанову адкрытага тыпу.

**Святаслаў ЦІТОВІЧ, памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**

● ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Аварыя: кіроўцу выратавала МНС

**МАЛАДЗЕЧНА. ДТЗ адбылося 3 жніўня каля 19.30 на Вялікім Гасцінцы на трэцім кіламетры трасы Маладзечна – Смаргонь.**

33-гадовы кіроўца "Пежо-206" рухаўся ў бок Мінска, распавяла інспектар аддзялення агітацыі і прапаганды УУС дзяржаўтаінспекцыі Мінскай вобласці **Ірына Сапунова.**

Ён не выбраў бяспечную хуткасць, на закругленні дарогі ўлева не справіўся з кіраваннем і выехаў на сустрэчную паласу. Кіроўца сутыкнуўся з аўтамабілем "Сітраэн С5", за рулём якога быў 55-гадовы жыхар вёскі Раёўка.

Апошні не пацярпеў. А чалавека, які быў за рулём "Пежо-206", з машыны даставалі супрацоўнікі МНС пры дапамозе гідраўлічнага інструмента. Пацярпелага з траўмамі рознай ступені цяжкасці шпіталізавалі ў Маладзечанскую ЦРБ.

Як дапоўніў дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага райаддзела міліцыі **Сяргей Бартош**, кіроўцу "Пежо-206" раней пазбавілі правоў за кіраванне ў нецвярозым стане. Цяпер, па папярэдняй інфармацыі, у яго таксама былі прыкметы алкагольнага апʼянення. Калі інфармацыя пацвердзіцца, гэта будзе другі выпадак кіравання ў нецвярозым стане цягам года. Яму пагражае крымінальная справа.

Прычыны і абставіны ДТЗ высвятляе ДАІ Маладзечанскага раёна.

**Настасся РОЎДА.**


Фота 112.by.

Кіроўцу "Пежо-206" даставалі супрацоўнікі МНС.




Фота забяспечана Людмілай КРАЎЧОНАК.

На турстаянцы Антанізберг.



Фота забяспечана Людмілай КРАЎЧОНАК.

Адпачываць прыязджаюць з камфортам.



Фота забяспечана Людмілай КРАЎЧОНАК.

У спякотныя дні турстаянкі застаўленыя палаткамі.

● ЛЕТА

# Адпачыць на нарачанскіх азёрах

**МЯДЗЕЛ. Сёлетнім спякотным летам у Нарачанскім краі прыбавілася адпачывальнікаў і на турыстычных стаянках.**

– Летась бліжэйшыя да Нарачы стаянкі былі запоўненыя напалову, далейшыя – малавата, – прыгадвае начальнік аддзела турызму Нацыянальнага парку "Нарачанскі" **Людміла Краўчонак.** – Сёлета, як прыйшло спякотнае надвор'е, у выхадныя большая частка турстаянак запоўненая амаль на 100%.

У Нацыянальным парку абсталяваныя 15 турыстычных стаянак. Размешчаныя яны на ўзбярэжжах дзесяці азёр.

На іх ёсць альтанкі, вогнішчы, дровы. Аднак тым, хто прыязджае на суткі з мэтай пасмажыць шашлыкі, рэкамендуюць для зручнасці ўзяць з сабой вугаль.

На некаторых стаянках ёсць свідравіны з пітной вадой ці блізка крыніцы. Але лепш прывозіць з сабой бутыляваную ваду.

На стаянцы "Антанізберг" працуе шапік, дзе прадаюць самае неабходнае. Можна тут і заказ зрабіць.

На турстаянцы на аўтакемпінгу "Нарач" больш за 20 месцаў для адпачынку. Тут ёсць стаянка для кемпераў, дзе можна падключыцца да электрычнасці, вады і каналізацыі.

### Якія цэны?

Суткі знаходжання на 12 стаянках абыдуцца ў 20 тысяч рублёў з чалавека, на стаянках "Антанізберг" і "Качаргі" – 25 тысяч рублёў, на аўтакемпінгу "Нарач" – 30 тысяч рублёў. Да таго ж з гасцей Нацыянальнага парку спаганяецца кампенсацыйны збор – 15 тысяч рублёў за суткі.

Яго не плацяць грамадзяне, якія пражываюць на тэрыторыі "Нарачанскага". А таксама непаўналетнія, студэнты, пенсіянеры, інваліды і іншыя.

Нікуды ехаць плаціць не трэба – прыязджайце на стаянку, размяшчайцеся. Вас знойдзе касір-адміністратар.

А вось аматары рыбачыць павінны паклапаціцца пра пуцёўку загадзя. Яе можна купіць і ў лясніцтвах, у к. п. Нарач (Купа). Таксама можна яе набыць у Мінску, Вілейцы, Смаргоні ды іншых гарадах.

### Самыя папулярныя – "Антанізберг" і "Качаргі"

І гэта прытым, што месца стаянкі "Антанізберг" не самае выйгрышнае: ля шашы Мінск-Нарач, не ў лесе. Аднак яна блізкая да к. п. Нарач (Купа).

"Качаргі" таксама размешчаныя непадалёку ад шашы, але яшчэ бліжэй да Мінска. Гэту турстаянку выбіраюць тыя, хто не хоча далёка ехаць. І жыхары Мядзела любяць тут адпачываць.

А вось рыбакі выбіраюць месца для адпачынку больш дэталёва. На стаянках ля Нарачы рыбачыць праблематычна, калі няма лодкі. Таму яны накіроўваюцца да азёр Расохі, Воўчына, Вішнеўскае, Швакшты, Мядзель.

### Хто едзе дзікуном?

Тыя, хто прывык адпачываць на прыродзе. Яны нават не шукаюць іншыя варыянты. І палаткі, і рыштунак свой маюць.

– Пастаянныя кліенты выбіраюць нават менш абсталяваныя стаянкі. Для іх галоўнае, каб было добрае надвор'е і дровы, – кажа Людміла Краўчонак.

Гады два таму ў прыродаахоўнай установе маглі ўпэўнена казаць, што адпачываюць на турстаянках практычна адны беларусы. А зараз нямала прыязджае машын з расійскімі нумарамі. Сустракаюцца госці з Прыбалтыкі, Чэхіі. А летась у верасні на стаянцы для кемпераў на аўтакемпінгу адпачывалі каля 30 немцаў.

**АЛЕСЬ ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ".** Кемпер, або аўтадом – аўтамабіль з жылым памяшканнем у фургоне альбо асобным ў выглядзе прычэпа, альбо сумешчаным з самім аўтамабілем. У Паўночнай Амерыцы і Еўропе папулярны турызм на кемперах з прыпынкамі на начлег у кемпінгах – спецыяльных прыстасаваных стаянках.

● ПЫТАЙЦЕСЯ – АДКАЗВАЕМ

## Дзе павінны стаяць сметніцы

**МАЛАДЗЕЧНА. У рэдакцыю "Рэгіянальнай газеты" звярнулася жанчына з пытаннем: "Ці ёсць нормы ўстаноўкі сметніц каля жылых пабудоў".**

На пытанне адказаў загадчык аддзела камунальнай гігіены **Міхаіл Міхалевіч:**

– У пастанове Міністэрства аховы здароўя ад 30 снежня 2009 года прапісаныя правілы, па якіх усталёўваюць кантэйнерныя пляцоўкі. Яны павінны быць аднесеныя на адлегласць не менш за 20 метраў ад акон жылых дамоў, межаў тэрыторыі ўстаноў адукацыі, аховы здароўя. Нельга іх ставіць паблізу пляцовак для дзяцей і аб'ектаў грамадскага харчавання, там, дзе адпачывае насельніцтва.

Кантэйнерныя пляцоўкі павінны быць чыстымі, мець агароджу і зручныя пад'езды транспарту для збору смецця.

У дамах, абсталяваных смеццеправодамі, павінна праводзіцца дэзінфекцыя па меры неабходнасці. Аднак не радзей за два разы на месяц з красавіка па кастрычнік і аднаго разу ў месяц з лістапада па красавік. Каля пад'езда павінна быць сметніца.

**Галіна СІНІЦА.**

## Як высокаму чалавеку прайсці па горадзе і не падрапаць твар

**МАЛАДЗЕЧНА. У рэдакцыю прыйшоў ліст. У ім чытач піша пра тое, як яму нязручна шпацыраваць па вуліцах.**

Многія маладзечанцы радуюцца чысціні і зеляніне ў горадзе, за чым сочаць камунальныя службы.

Але чытача, "дубіну пад 195 сантыметраў", азеляненне зусім не радуе. Галіны з дрэў звісаюць вельмі нізка. "Трэба сагнуцца ў тры пагібелі", каб прайсці па тратуары і не падрапаць твар.

Хто павінен падразаць галінкі? Чаму гэта не робяць? Чытач шукае адказ.

### Адказвае спецыяліст

Тлумачыць інжынер вытворча-прамысловага аддзела "Камунальніка" **Дар'я Літвіновіч**:

– Работы па падрэзцы галін дрэў у горадзе праводзіць займаецца гэтым зялёнапаркавая гаспадарка. Падрэзка ідзе адразу пасля вегетацыйнага перыяду, з кастрычніка па май.

**Галіна СІНІЦА.**

● АДУКАЦЫЯ

## Сёлета закрываюць дзевяць устаноў адукацыі ў рэгіёне

**Галоўная прычына – малая колькасць вучняў. Пра гэта нам паведамілі ў аддзелах адукацыі, спорту і турызму райвыканкамаў.**

**АСТРАВЕЦ.** У Астравецкім раёне закрываюць Дайлідскую базавую школу. Дзяцей перавядуць у сярэднюю школу №1 у Астраўцы.

**АШМЯНЫ.** Базавая школа і яслі-сад у вёсцы Гродзі не сустрэнуць сёлета вучняў. Вёска знаходзіцца на мяжы Ашмянаў і Астраўца. Таму дзеці могуць выбіраць, у якую школу пайсці.

Большасць з іх будзе вучыцца ў сярэдняй школе №1 у Ашмянах.

**ВАЛОЖЫН.** Дзве школы рэарганізаваныя ў Валожынскім раёне – Камянецкая базавая школа і Падбярэзская сярэдняя школа.

У іх вучылася па 35 вучняў. Сярод іх у Камянецкай школе 14 дашкольнікаў, у Падбярэзскай – 12.

Цяпер дзеці з першай названай школы пераведзеныя ў яслі-сад "Лесавічок" і ў сярэднюю школу ў Івянцы. З Падбярэзскай – у Гародзькаўскую сярэднюю школу.

**ВІЛЕЙКА.** З-за невялікай колькасці вучняў, 21-го, закрываюць сярэднюю школу ў вёсцы Хаценчыцы. Цяпер дзеці будуць вучыцца ў Залескай сярэдняй школе.

**МАЛАДЗЕЧНА.** У Маладзечанскім раёне будуць працаваць усе школы.

**СМАРГОНЬ.** Смаргонскі вучэбна-вытворчы камбінат працоўнага навучання і прафесійнай адукацыі спыніць навучанне. Прафесійную адукацыю дзеці будуць атрымліваць у каледжах.

**МЯДЗЕЛ.** Дзве школы ў Мядзельскім раёне спыняць існаванне – Пузырэўская і Камароўская сярэднія школы.

Дзяцей з першай названай школы пераведзеныя ў Будслаўскую сярэднюю школу імя Паўліны Мядзёлкі. З другой закрытай школы вучні пойдуць у Свірскую і Старлыгскую сярэднія школы.

**Галіна СІНІЦА.**

МУЗЫКА

# Фестываль у Шаблях паставіў на вушы раён

**ВАЛОЖЫН. Першыя выхадныя жніўня запомняцца не толькі Днём дэсантнікаў, але і першым Міжнародным музычным фестывалем "Дружба", які адгрымеў 1-2 жніўня на хутары Шаблі на Валожыншчыне.**

Фестываль ускалыхнуў не толькі ўсю Валожыншчыну, але і гледачоў з Беларусі, Расіі, Украіны і іншых краін, якія прыйшлі, прыехалі, прыляцелі гэтымі спякотнымі днямі на невялікі хутар непадалёк ад станцыі Валожын.

Для тых, хто не мае машыны і праз гэтыя абставіны вырашыў застацца дома, нашы вам спачуванні. Дабрацца да хутара складанасці не выклікала. Сюды рэгулярна ходзяць аўтобусы і цягнікі. А ў дзень фестывалю гледачоў падвозілі бясплатна. Аўтобусы курсіравалі ад аўтобуснага вакзала ў райцэнтры і ад чыгуначнай станцыі.

Праўда, назад вяртацца было найпрасцей у Мінск. Бо туды ездзілі спецыяльныя маршруткі. А вось іншым гарадам давялося нясоладка. Маладзечанцам, напрыклад, трэба было б вяртацца праз сталіцу.

Кіроўца аўтобуса, на якім мы прыехалі, параіў нам застацца ў валожынскай гасцініцы. Але найбольш правільна зрабілі тыя, хто ўзяў з сабой палаткі і застаўся тут на ўсе выхадныя.



Фота Настассі РОЎДЫ.

На фестываль у Шаблі ехалі цэлымі сем'ямі.

### У Шаблі – сёмы раз запар

– А мы ад'язджаем у нядзелю, – падзялілася планамі **Кацярына Нікіціна** з Мінска. – Увогуле, гэты фестываль для мяне не першы. У Шаблі ўпершыню мне пашчасціла прыехаць аж у 2008 годзе. Тады тут таксама ладзіліся падобныя фестывалі.

– Шкада толькі, што вогнішчы забаранілі паліць, – працягвае яна. – На ранейшых фестывалях, што праходзілі ў Шаблях, было вельмі добра, што ля кожнай палаткі гарэў свой агеньчык.

А вось насамрэч правільна зрабілі, што алкаголь можна піць толькі ў спецыяльным "Кутку алкаголікаў", а не на ўсёй тэрыторыі фестывалю.

Арганізацыя была насамрэч прадуманая да драбязы. Асобна зона кухні, дзе можна было і добра падсілкавацца, і папіць дзіўнай гарбаты "Нахабная садавіна", і выбраць марожанае абсалютна на любы густ. Дарэчы, кубачак маражанага каштаваў 25 тысяч рублёў.

Тут жа на фестывалі працавала выстава-продаж упрыгожванняў ручной работы. Розныя забавы накшталт батута або тарзанкі. Дарэчы, за хвіліну слёз, жаху і стрэсу на тарзанцы самыя адчайныя мусілі выкласці са сваёй кішэні 50 тысяч рублёў. Кампаніі бавілі час за гульнёй у фрызбі, бадмінтон.

Але месцам, дзе разварочваліся самыя галоўныя падзеі фестывалю, вядома, была сцэна. Нават дзве сцэны. Выступленні артыстаў чаргаваліся. Калі ішоў канцэрт на верхняй пляцоўцы, на ніжняй у гэты час рыхтаваліся да выступлення чарговага гурта.

– Наколькі я ведаю, – распавяла глядачка фестывалю **Аўгіня Манцэвіч**, – за выступленне на верхняй сцэне змагаліся маладыя выканаўцы ў конкурсе, які загадзя правялі арганізатары. Я для сябе сёння адкрыла гурт J-Jbingz. Адзінае, пра што шкадую, што запрасілі толькі артыстаў з Расіі, Украіны і Беларусі. Фестываль жа міжнародны. Хацелася б пабачыць гурты з Літвы, Польшчы.

– Я прыехаў паслухаць выключна гурт Akute, – прызнаўся **Ігар Шухно**, прадпрымальнік з Мінска.

– А я чакаю "Сярэбранае вяселле", Дэльфіна і гурт "Сундук", – кажа **Ганна Горн**, навучэнка з Мінска. – Калі ўбачыла, што ў нас будзе такі фестываль, адразу стала прасіць бацькоў разам прыехаць сюды. Доўга ўпрошваць не давялося. Мама з татам з задавальненнем наведваюць такія мерапрыемствы.

### Што значыць сапраўдны фестываль

Музычная праграма была вельмі насычанай. Музыка над хутарам не змаўкала ад раніцы і да ночы. Ну і які ж фестываль без афіцыйнага гімна? У "Дружбы" – гэта песня гурта "Без Білета" "365 дзён лета".

І **Віталь Артыст**, саліст гурта, больш за ўсё перажываў менавіта за гімн:

– Было хваляванне і за гімн, і ў цэлым за тое, як пройдзе фестываль. Гэта ж першы фестываль такога маштабу ў Беларусі. Але пачатак яго ўдалы, атрымаўся сапраўдны фестываль. Мяркую, што калі ён вытрымае некалькі гадоў, то зойме сваё месца сярод іншых буйных музычных фестываляў.

**– Як вызначыць гледачу, трапілі яны на сапраўдны фестываль ці не?**

– Вам добра? Вы адпачываеце? Значыць сапраўдны.

**– Для вас такія мерапрыемствы адпачынак ці праца?**

– Мы прыехалі толькі на адзін дзень. Сёння, пакуль вы будзеце адпачываць, мы будзем трэсціся на мяжы з Літвой, куды едзем на наступны фестываль.

**– З якімі словамі вы звярнуліся б да гледачоў, што прыехалі на фестываль?**

– Правільна зрабілі, што адарвалі свае целы ад жабнай дзейнасці ў сацсетках. Малайцы! Нашто ехаць за мяжу, калі тут, пад бокам, такое грандыёзнае шоу!

**Наталля ТУР, Настасся РОЎДА.**

КУЛЬТУРА

## Праходзіць выстава маладзечанскага мастака

**МЯДЗЕЛ.** У Мядзельскім музеі народнай славы распачалася выстава "Адгалосак душы". На ёй мядзельчане могуць пазнаёміцца з творчасцю мастака з Маладзечна **Васіля Бурава**.

Ён у свой час скончыў аддзяленне станковага жывапісу і графікі Маскоўскага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. Правёў больш за 20 персанальных выставаў у розных гарадах Беларусі.

На выставе прадстаўлена 43 карціны мастака, паведаміла навуковы супрацоўнік музея **Таццяна Пісарчык**. Гэта пейзажы, партрэты, філасофскія працы.

Працаваць выстава будзе да 25 жніўня.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Адбудзецца кастынг для праекта "Спяваючыя гарады. 3 сезон"

**МАЛАДЗЕЧНА.** Ён пройдзе дзявятага жніўня ў Палацы культуры а 10-й гадзіне.

Тэлеканал СТБ набірае кандыдатаў для ўдзелу ў папулярным тэлевізійным музычным праекце "Спяваючыя гарады. 3 сезон".

Калі вам ёсць 16 год і вы ўмееце спяваць ці танцаваць, прыходзьце на кастынг.

Танцоры і танцавальныя калектывы будуць разглядацца ў якасці дадатку да вакальных нумароў.

Даведкі па тэлефоне ў Маладзечне **73-00-92**.

**Аддзел інфармацыі.**

ПАМЯЦЬ

## На мітынг-рэквіем прыйшло каля тысячы жыхароў

**СМАРГОНЬ.** 1 жніўня ў горадзе прайшоў мітынг-рэквіем, прысвечаны стагоддзю пачатку Першай сусветнай вайны.

На мерапрыемства прыйшлі таксама прадстаўнікі дыпламатычных місій шэрагу краін, у тым ліку Расіі, Вялікабрытаніі, Кітая.

Госці мітынгу-рэквіема мелі магчымасць пабачыць мемарыяльны комплекс у гонар ахвяраў і герояў Першай сусветнай вайны, які ўзводзіцца ў Смаргоні.

Аднак каб завяршыць усе працы па яго будоўлі, яшчэ патрэбны час.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота Уладзіміра ЦЕРАБУНА.

Падчас мітынгу ў Смаргоні.



Фота Уладзіміра ЦЕРАБУНА.

Усталявалі камень памяці.

• Дача ў в.Укропенка, 2 паверхі, 12 сотак, цяпліцы, калодзеж, камін, сад, 5 км ад Смаргоні, тэрмінова. Т. (8-029) 1284714.

• Дача ў СТ "Крынічка" (Родничок) у в.Мароські, д.19, ёсць цагляны дом 7х8 м, лазня 3х4 м, хлеў, вада для паліву, газ, святло, возера побач. Т. (8-029) 1177239.

• Дачны участак у Маладзечанскім р-не, 10 сотак, нядорага. Т. (8-029) 7712759.

• Дом (4 км ад Маладзечна), 0,14 га, ёсць калодзеж, газ па вуліцы. Т. (8-029) 8780243, (8-029) 7043581.*

• Дом у в.Байбы, Смаргонскі р-н. Т. МТС (8-033) 3503444.*

• Дом у в.Ілья, Вілейскі р-н, побач лес, рака, ацяпленне паравое. Т. МТС (8-029) 7430266.*

• Дом у в.Пагост, Вілейскі р-н, дом 1950 г.б., 8х8 м, гаспабудовы, 22 соткі зямлі, сад, побач дзве ракі, лес, 7500 у.а. Т. МТС (8-029) 2649526, Вэлком (8-044) 4655299.

• Дом у Вілейцы, р-н Шанхай, вул.Заслонава, д.20, 16000 у.а. Т. (8-033) 6312465.

• Дом у Вілейцы. Т. (8-033) 3025218, (8-029) 5723243.

• Дом у Івонцавічах, Вілейскі р-н. Т. (8-033) 3137628.*

• Дом у Лыцавічах, вул.Садовая, 5, Іжанскі с/с, Вілейскі р-н. Т. МТС (8-029) 5578342.

• Дом у Маладзечне недабудаваны, 3 узроўні, сцены драўляныя, дах – шыфер, плошча забудовы 10х13,5, унутраная плошча будынка 265/179/15, плошча ўчастка 15 сотак, гараж, сад, гаспадарчыя пабудовы, плот, побач лес і рэчка. Магчымы абмен на 2-пакаёвую кватэру. Т. (8-029) 5605781, (8-029) 5634971.*

• Дом у Маліноўшчыне, 76 кв.м, 16 сотак, 13000 у.а., Маладзечна. Т. (8-0176) 720220.*

• Дом у Сасновым Бары, Маладзечанскі р-н, 106 кв.м, блокава-цагляны, газавае ацяпленне, водазабеспячэнне, гаспабудовы, пластыкавыя вокны, участак 0,15 га. Т. (8-0176) 707539, Вэлком (8-029) 1732246.*

• Дом цагляны ў Маладзечне, 1 паверх, 120 кв.м, гараж з ямай, 2 хлявы, летняя кухня, лазня, газавае ацяпленне, водазабеспячэнне, выгоды ў доме, участак 15 сотак, магчымы абмен, разгледжу любыя варыянты. Т. (8-029) 3535964.*

• Зруб з будаўнічай сістэмай, памер 4х4 м. Т. (8-01771) 54193, (8-029) 7737938.

• Участак у в.Ардзяя, Смаргонскі р-н, 15 км ад Смаргоні, 25 сотак, дом (7 пакояў, сені, веранда), побач лес, рака, 9500 у.а. Т. Вэлком (8-029) 1407061.*

• Участак у Гатавічах, Мядзельскі р-н, 20 сотак. Т. (8-029) 7720285, Сяргей.*

## КУПЛЮ

• **ДОМ.** Т. (8-029) 3780215.*

• 2-3-пакаёвую кватэру ў Маладзечне для сябе. Т. (8-033) 6031572, (8-029) 6650796.

## ЗДАМ



• Арганізацыя здасць у арэнду памяшканні ў Маладзечне, вул.Ларына, 2 (плошчы ад 30 кв.м да 70 кв.м), можна пад гаражы, пад склады, магазін, майстэрню, магчымы юрыдычны адрас. ПП "Дысаол". УНП 690550031. Т. (8-029) 3031415, (8-029) 5688312.*

• Кватэру на суткі, камандзіраваным і студэнтам – скідкі. ІП Шчарбачэвіч Т.І. УНП 691507948. Т. (8-044) 4892548.*

## МЯНЯЮ

• 3-пакаёвую кватэру па вул.Кастрычніцкай, кватэра на 3-м паверсе з рамонтам, на дом у Вілейцы. Т. (8-029) 2375721.*

• 3-пакаёвую кватэру на 2-пакаёвую ў Вілейцы, з даплатай. Т. (8-029) 7796364.

## НАЙМУ

• Кватэру для сям'і з трох чалавек, своечасовую аплату і прыстойнасць гарантуем. Т. МТС (8-029) 8598165.*

# ПАСЛУГІ

## ДЛЯ МАЛАДЫХ

• **"АЛЯКСАНДРА"** – вясельныя, вячэрнія, дзіцячыя ўбранні. Маладзечна, ГЦ "Спадарожнік", вул.В.Гасцінец, 67. ІП Ліпніцкая А.Г. УНП 691397956. Т. (8-044) 7567877, (8-029) 9509215.*

• **"МАДЛЕН"** – новае паступленне еўрапейскіх мадэляў. Маладзечна, вул. Валынца, 12, 2-і паверх. ІП Кароль Т. Н. УНП 690494373. Т. (8-029) 3611420.*

• **"НАДЗЕЯ"** – вясельныя, дзіцячыя ўбранні. Маладзечна, ГАЦ "Модуль", месца №65. ІП Ліпніцкая Г. С. УНП 600328327. Т. (8-044) 5502031.*

• Вяселлі, юбілеі, карпаратывы на любы густ і пад ваш бюджэт. Т. (8-029) 6188716.*

• Тамада-баяніст, дыскатэка на вяселле, юбілей. Сайт: www.toast-master1.narod2.ru УНП АА 9523648. Т. МТС (8-029) 5510526.*

## ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• Фота і відэа 16:9 вяселляў, юбілеяў і іншых урачыстасцяў. Слайд-шоу і фотакнігі. Аблічбоўка відэакасет. Параім музыкаў. ІП Чарняўскі С.В. УНП 691396671. Т. (8-029) 3305452, (8-029) 7686148.*

## ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Гідраманіпулятар МАН, г/п - 12 т, борт 6 м. ПТУП "Самелінтранс". УНП 691512685. Т. (8-029) 8709487.*

• МАН бартавы, 20 т, 13,6 м; МАН гідраманіпулятар, 20 т. Т. (8-029) 2713567.*

• Мерседэс 208Д, 1,5 т, па горадзе і РБ, грузчыкі, наяўны, безнаяўны разлік. ІП Буслаўскі А.І. УНП 691292601. Т. (8-044) 7498972, МТС 7643072.*

• Мерседэс-409, фургон, 4 м, г/п – 2,5 т. УНП 691176225. Т. (8-029) 8771967.*

• Тэнт, да 5 т. ПТУП "Саліра". УНП 691506727. Т. (8-029) 7787574.*

## ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **АНГЛІЙСКАЯ МОВА** на высокім узроўні. Т. МТС (8-033) 3533443.*

• **ВАРОТЫ, БРАМКІ, ПЛАТЫ,** навесы, агароджы. ІП Сыракваш Ю.А. УНП 691169539. Т. (8-029) 2005933.*

• Выраб і ўстаноўка міжпавярховых лесвіц з дрэва. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клаўсюк А.А. УНП 691512274. Т. (8-029) 7792477.*

• **ДАХ** – кансультацыя, замер, мантаж. Металачарапіца, прафнасціл, шыфер, вадасцёк. ІП Церах В.Ф. УНП 691880824. Тэлефануйце (8-029) 1752905.*

• **ДАХАВЫЯ РАБОТЫ ЛЮБОЙ СКЛАДАНАСЦІ, УЦЯПЛЕННЕ, АДДЗЕЛКА** ўнутраная, вонкавая. Вагонка. Сайдынг. Блок-хаўс. ІП Ходаль В.А. УНП 391074376. Т. Вэлком (8-029) 9920647, МТС (8-029) 7698467.*

• **ДЭМАНТАЖ ЛЮБОЙ СКЛАДАНАСЦІ. ВЫВАЗ БУДАЎНІЧАГА СМЕЦЦЯ, НАЗАПАШАНАГА ХЛАМУ.** ІП Буслаўскі А.І. УНП 691292601. Т. (8-029) 7643072, (8-044) 7498972.*

• Зраблю кованыя металічныя вырабы любой складанасці. Т. (8-029) 3543906.*

• Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў, выезд. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*

• Ручная **КОПКА КАЛОДЗЕЖАЎ**, каналізацыі. Кладка каналізацыйных труб, падводка вады ад калодзежа. ІП Шніп В.А. УНП 691882125. Т. МТС (8-029) 5062694.*

• Устаноўка помнікаў, добраўпарадкаванне месцаў пахаванняў. ІП Нільва А.С. УНП 691880467. Т. МТС (8-029) 5544175, Вэлком (8-029) 3469417.*

• Фундамент, кладка, дах, зруб. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-029) 5024571.*

• Шафы-купэ, прыхожыя, спальні, дзіцячыя пакоі. ІП Купрэйчык А. П. УНП 690685907. Т. (8-029) 5085160, (8-044) 7899734.*

• **ШОУ** клоўна – дзіцячыя святы, дні нараджэння, віншаванні. Парадыйнае шоу ростовых лялек для дарослых на вяселлі, юбілеі, выпускныя. ІП Кановіч І.Е. УНП 691501156. Т. (8-029) 8596692, (8-044) 4904791.*

# РОЗНАЕ

## ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Батарэі чыгунныя, б/у. Т. (8-029) 8789740.*

• Вагонка (елка, хвоя, алешына, ліпа). Дошкі для падлогі, імітацыя бруса. Блок-хаўс, дошка абрэзная. ІП Скарук М.Т. УНП 691500282. Т. (8-029) 6541563.*

• **ЛАМІНАТ, ЛІНОЛЕУМ** (больш за 400 відаў), сайдынг, панэлі ПВХ. Дастаўка. Вул.Б.Хмяльніцкага, 3-г (2 паверх). Будынак адміністрацыі рынку. ІП Мацура Д.В. УНП 790551075. Т. (8-029) 3845757.*

• Сетка-рабіца, ацынкаваная, вышыня 1,5 м, 12 рулонаў, 200000 руб. за рулон. Слупкі металічныя, 40 шт. Дапамагу з дастаўкай. Т. (8-029) 7537679.*

• **ТРАТУАРНАЯ ПЛІТКА, БАРДЗЮРЫ.** ІП Селезень А.В. УНП 191863629. **Т. (8-029) 6752253, (8-029) 7697827.***

• Шыфер, дастаўка. Т. (8-029) 6693188.*

• Фанера 1500х1500, таўшчыня 4 мм, 40 лістоў, Маладзечна. Т. (8-029) 1080198.

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Бульбакапалка польская, 700 у.а. Т. Вэлком (8-029) 1728041.

• Культыватары. Катлы. Печы. Лазні. Бетонамяшалкі. Воданагравальнікі. Помпы. Сантэхніка. Ацяпленне. Сайт 940.BY. ІП Глінскі М.М. УНП 190337652. Т. (8-029) 2599940.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ НТВ +, "ТРЫКАЛОР". АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ. РАСТЭРМІНОЎКА БЕЗ %. ДАСТАЎКА І ЎСТАНОЎКА БЯСПЛАТНА.** ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. **Т. (8-029) 7627898, (8-029) 3326779.***

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР". АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ НТВ + І ТРЫКАЛОР ТВ. АКЦЫІ. РАСТЭРМІНОЎКА БЕЗ %. ДАСТАЎКА І ЎСТАНОЎКА БЯСПЛАТНА.** ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. **Т. (8-029) 5702212, (8-029) 9056393.***

• **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ.** Кантроль якасці. ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. Т. (8-029) 5702212.*

• **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ**. Трыкалор. ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. Т. (8-029) 9056393 Вэлком.*

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫЯ! ЛІЧБАВЫЯ ПРЫЁМНІКІ АД 350000 РУБ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, HD.** Растэрміноўка без %. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, ЛІЧБАВАЕ ТБ.** Растэрміноўка без % да 12 месяцаў. ГД "Тройка", п. 536. ПГУП "Літераль". УНП 690371107. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320, www.literal.deal.by*

**Мэбля**

• Ложак двухспальны 210х160. Т. (8-029) 5078439.*

• Секцыя 4-прадметная. Т. (8-029) 2724835, 740996.*

• Секцыя "Вежа" б/у, у добрым стане, нядорага, халадзільнік "Індэзіт", маленькі 80х60. Т. (8-029) 9880502.

• Шафа 3-створкавая. Т. (8-029) 3232402.

• Трыльяж. Нядорага. Самавываз, Маладзечна. Т. (8-029) 7649289.*

• Мэбля б/у, гараж, тэрмінова, Маладзечна. Т. (8-029) 6888111, (8-017) 2562744.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Бычок на гадоўлю, 5 тыдняў, в.Кібуці, д.14, Валожынскі р-н. Т. (8-029) 2573136.

• Сем'і пчол на 8 рамак без вулляў 60 у.а., з вуллямі 160 у.а. Т. 743243.*

• Карова, высокапрадуктыўная, нядорага; аўчарка нямецкая, 3 гады, уся чорная, добрыя ахоўныя якасці. Т. (8-029) 6802757, (8-029) 7727757.*

• Конь, 11 год, тэрмінова, нядорага, у Астраўцы. Т. (8-029) 3606192.

• Шчанюкі чаў-чаў, прывітыя, нядрага. Т. (8-029) 2726316.

• Шчаняты кітайскай кудлатай, голыя і пухаўкі. Т. Вэлком (8-044) 5515436.

**Іншае**

• Агароджа бетонная дэкаратыўная, магчымыя дастаўка і ўстаноўка. ІП Чарнушэвіч Р.А. УНП 691882975. Т. (8-029) 2566570.*

• Агароджа рытуальная, 3,0х2,5, 1400000 руб. Дапамагу з дастаўкай. Т. Вэлком (8-029) 3919139.*

• Адкатныя вароты, блокі ФБС 12.4.6, 10 шт. Т. МТС 5570634.*

• Аконныя створкі на цяпліцу з двух вокнаў, б/у. Т. (8-029) 3596549, (8-0176) 743881.

• Акрылавая ванна, уваходныя і балконныя дзверы з новабудоўлі. Т. (8-029) 7680808.

• Бытоўка на мяккім ходу 7х2,5 метра, кухня, газ, душавая з падагрэвам вады, асвятленне, 4 спальныя мяккія месцы, цана дагаворная, Заслаўе, Мінскі р-н. Т. (8-029) 6862840.

• Вагон-бытоўка, уцепленая, 4000х2500. Т. МТС (8-029) 5752805.*

• Дзверы: кухонныя (68х197), двухстворкавыя для залы (58х197), б/у, як новыя; кніжная шафа, б/у, ад падлогі да столі 250х103х21см. Т. у Маладзечне 753046, увечары.

• Каляска дзіцячая трансформер. Т. (8-029) 5078439.*

• Печ у лазню, Вілейка. Т. (8-029) 6165118.*

• Свініна. Т. (8-029) 6597228.*

• Сукенка вясельная, 1 раз б/у, вельмі прыгожая, колер шампань, памер 46-48. Т. (8-044) 7283621 Вэлком.*

## КУПЛЮ

**Антыкварыят**

• **АНТЫКВАРНЫЯ, СТАРЫЯ, ВІНТАЖНЫЯ РЭЧЫ.** Маладзечна, вул. Б. Хмяльніцкага, 6, "Антыкварная лаўка", каля старога рынку. Т. (8-029) 2042518 МТС, (8-029) 1483047 Вэлком.*

• **АНТЫКВАРЫЯТ! ДОРАГА! КУПЛЮ!** Манеты, мэблю, ордэны, самавары, іконы, статуэткі, гадзіннікі, брошкі і інш. Т. МТС (8-029) 7764214.*

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

## ІНШАЕ

• Аграсядзіба "У Мароза" запрашае на адпачынак. Т. Вэлком (8-029) 6650884, МТС (8-029) 8726471.*

• Аддам таксу ў добрыя рукі. Т. (8-029) 2533521.

• **АРГАНІЗАЦЫЯ РЭАЛІЗУЕ ДРОВЫ КОЛАТЫЯ**, цана 1600000 руб. за 6 навальных метраў. ТАА "Прарыў-7". УНП 691174526. Т. МТС (8-029) 5720925.*

• Ласкавых кацянят аддам у добрыя рукі, Маладзечна. Т. (8-0176) 730588.*

• Магазін ТАА "БудРэгіён" па вул.Красіна, 27 праводзіць **АКЦЫЮ** на керамічную плітку! Калекцыі: Парадыз, Альтаір, Готланд, Анжэры. Чакаем Вас за пакупкамі па вул. Красіна, 27. УНП 690618214. Т. (8-01771) 52380, (8-01771) 22020.

• Малады тытулаваны кабель мопса запрашае сяброўак на злучку. Т. (8-029) 7832432, (8-044) 5790105.*

• Шукаю спадарожнікаў ў Хмяльніцкі, Беласток. Т. (8-033) 6344827, (8-029) 9491773.*

# ПРАЦА

## ШУКАЮ РАБОТУ

• Дапамагу ў распілоўцы дроў. Т. МТС (8-029) 2609392.*

• Дахі і фасады пад ключ. Т. (8-029) 2641389.*

• Мантаж, дэмантаж дахаў, падшыва, вадасцёкі, афарбоўка дамоў, фасады. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Сцяжкі, разводка сантэхнікі, абліцоўванне пліткай, шпакляванне сцен, столяў, устройства адкосаў, афарбоўка, паклейка шпалер. Т. Вэлком (8-029) 1391932.

• Якасная аддзелка кватэр, дамоў, столі пад афарбоўку, шпаклёўка, шпалеры і г.д. ІП Скуратовіч С.С. УНП 691507287. Т. (8-029) 2501031.*

## ПАТРАБУЮЦЦА

• Масажыст шукае работу. Т. Вэлком (8-029) 9756978.*

• **ПАТРАБУЕЦЦА ПРАДАВЕЦ** у магазін аўтазапчастак, **ВАДЗІЦЕЛЬ** катэгорыі Е. ТАА "БудРэгіён". УНП 690618214. Т. (8-01771) 55781, (8-01771) 52370.

• Патрабуецца спецыяліст для рамонту балкона (сцяжка). Т. (8-029) 7445746, (8-029) 7653562.*

• Патрабуецца сядзелка па доглядзе за хворай жанчынай, магчыма з пражываннем у Маладзечне, вул.Машэрава. Т. (8-029) 6773685, (8-029) 6600245.*

• Патрабуюцца высокакваліфікаваныя **МУЛЯРЫ** для работы ў Мінску. Афіцыйнае працаўладкаванне. Аплата працы здзельна-прэміяльная. Іншагародним акажам садзейнічанне ў засяленні. ТАА "Квікон". УНП 191788828. Т. (8-029) 5771251.*

• Патрабуюцца спецыялісты па ўкладцы тратуарнай пліткі. Т. (8-029) 6664141, (8-029) 5035107.*

• ТАА "Авантаж-ВК" на пастаянную работу **ПАТРАБУЕЦЦА ПРАДАВЕЦ.** УНП 691173014. Т. (8-029) 7049910.

● СЛУЖБА 101

# Асцярожна: ртуць

**МАЛАДЗЕЧНА. 4 жніўня ў падвале жылога шматкватэрнага дома па вуліцы Віленскай знайшлі пакет з ртуццю.**

Супрацоўнікі аддзялення хімічнай радыяцыйнай абароны пажарнага аварыйна-выратавальнага атрада правялі дэмеркурызацыю ртуці механічным і хімічным спосабамі. Яны сабралі прыкладна 700 грамаў ртуці. Пацярпелых няма.

Пасля актыўнага праветрывання падвала правялі паўторныя замеры канцэнтрацыі, якія паказалі, што дапушчальная канцэнтрацыя неперавышаная. Работнікі Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі дазволілі далей выкарыстоўваць падвал.

**МНС нагадвае асноўныя правілы пры выяўленні разлітай ртуці:**

1. Выведзіце з памяшкання дзяцей, пажылых людзей і хатніх жывёл, адкрыйце вокны;

2. Падрыхтуйце раствор, 2 грамы марганцоўкі на 1 літр вады, і шкляны слоік са шчыльнай накрыўкай;

3. Надзеньце вільготную марлевую павязку і гумовыя пальчаткі;

4. Шарыкі ртуці збярыце вільготным пэндзлікам у папяровы канверт, зусім маленькія шарыкі збярыце пры дапамозе вільготнай газеты, пластыру, скотчу або хлебнага мякішу;

5. Вычышчаную паверхню апрацуйце растворам марганцоўкі або мыльна-содавым растворам;

6. Сабраную ртуць апусціце ў слоік з растворам марганцоўкі і аднясіце ў бліжэйшае падраздзяленне па надзвычайных сітуацыях або патэлефануеце па нумары “**101**”або “**112**”;

7. Добра праветрыце памяшканне.

У выпадку разліву вялікай колькасці ртуці або немагчымасці справіцца сваімі сіламі – звяртайцеся ў МНС.

**Забараняецца:**

1. Выкідаць ртуць у смеццевае вядро або каналізацыю;

2. Дакранацца да ртуці рукамі.

3. Збірайць ртуць пыласосам.

4. Мыць вопратку і абутак, якія кантактавалі з ртуццю, у пральнай машыне. Гэту вопратку лепш выкінуць.

**Ксенія ТАРАТУТА, інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі Маладзечанскага ГРАНС.**

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# Як уратаваць старадаўні арган у Вішневе

**ВАЛОЖЫН. Пробашч касцёла спадзяецца на дапамогу мясцовых жыхароў і ахвярадаўцаў.**

У адным з падарожжаў мы наведалі мястэчка Вішнева ў Валожынскім раёне.

Адсюль родам Шымон Перэс, з гэтых мясцінаў паходзіць жонка Янкі Купалы Уладзіслава Францаўна. Але найбольш мястэчка асацыюецца з ксяндзом **Уладзіславам Чарняўскім**, які служыў па-беларуску яшчэ тады, калі касцёл быў цалкам польскамоўны.

Дамінантай мястэчка з'яўляецца касцёл на беразе шырокай, але зараслай чаротам рэчкі Альшанка. Ён быў узведзены ў 1641 годзе на сродкі графа **Юрыя Храптовіча** на месцы былога драўлянага храма.

У XVIII стагоддзі храм быў дапоўнены бакавымі капліцамі, якія надалі яму выгляд крыжа. Убранства касцёла непаўторнае сваёй дэкаратыўнай драўлянай скульптурай, якую рабілі народныя майстры, і гіпсавай скульптурай, накладной арнаментальнай разьбой па дрэве, мастацкай коўкай, датаванай яшчэ 1619 годам, фрэскавымі пано. Цудоўныя рысы спалучаюць стылёвыя якасці Рэнесансу, маньерызму, ранняга і позняга барока і ракако.

Касцёл цудам ацалеў ад войнаў і разбурэнняў, не быў зачынены ў савецкія часы.

У святыні знаходзіцца старажытны арган, які быў зроблены ў 1907 годзе віленскім майстрам **Фларыянам Астрамецкім**. Рэканструкцыяй аргана займаецца спецыяліст з Вялікага тэатра оперы і балета Масквы **Дзмітры Лотаў**. Больш за 30 гадоў ён даглядае музычныя інструменты, у тым ліку, арганы. Акрамя гэтага, ён з'яўляецца святаром лютэранскай супольнасці ў Маскве.

– Інструмент не ў вельмі добрым стане. Шмат бруду і пылу давялося змыць з яго, некаторыя дэталі згубленыя. Праца па аднаўленні яго не такая рамантычная, як здаецца, даволі цяжкая. На рэканструкцыю спатрэбіцца некалькі гадоў. Неабходныя новыя дэталі. Мне давялося весці рамонт арганаў у Камаях, Лучаі, у Красным, – распавёў Дзмітры Лотаў.

Арган у Вішнеўскім касцёле быў усталяваны ў 1907 годзе. Майстар Фларыян Астрамецкі праслухоўваў кожную трубачку перад тым, каб уладкаваць інструмент на вякі. З Вільні прыехаў разам з ім арганіст, які выканаў музычную партыю на нядзельнай імшы. Люд мястэчка запоўніў будынак і ўслухоўваўся ў глыбокія і ўрачыстыя гукі аргана.

Звесткі пра майстра Фларыяна Астрамецкага засталіся ў літоўскай музычнай літаратуры. Сам ён знік у віры войнаў і рэвалюцый, а яго духавы інструмент будзе служыць ужо другое стагоддзе. Памяць пра добрыя справы чалавека жыве… І вось чалавек з біблейскім прозвішчам Лотаў ратуе інструмент ад занядбання.

Арган – адзін са старажытных музычных інструментаў. Яго гісторыя налічвае некалькі тысяч гадоў. Майстэрства вырабу арганаў развілася ў Італіі, а пазней – у Германіі. Шырокае распаўсюджванне ў Еўропе духавы інструмент атрымаў у сярэдзіне XIV стагоддзя. Сярэднявечныя арганы ў параўнанні з пазнейшымі былі з шырокімі клавішамі. У XV стагоддзі клавішы былі паменшаны і павялічаная колькасць труб.

Музыку для аргана пісалі дзясяткі еўрапейскіх кампазітараў: Іаган Себасцьян Бах, Ферэнц Ліст, Георг Фрыдрых Гендэль, Вальфганг Амадэй Моцарт, Джавані Палестрына, Джыралама Фрэскабальдзі, іншыя.

Рэпертуарнае багацце арганнай музыкі вызначаецца тымі абставінамі, што на працягу стагоддзяў арган з'яўляўся асноўным музычным інструментам, які выкарыстоўваўся ў богаслужбовай практыцы краін Заходняй Еўропы і Паўночнай Амерыкі.

– Касцёл – наша нацыянальная спадчына. Мы павінны яго даглядаць, трымаць у належным стане, захоўваць як духоўны скарб і як помнік архітэктуры, – адзначыў ксёндз-пробашч **Язэп Мільдзюк**. – Мы звярталіся ў Міністэрства культуры Беларусі з просьбай выдаткаваць сродкі на рэканструкцыю аргана і атрымалі адмову. Вырашылі, што будзем рабіць усё з дапамогай мясцовых жыхароў і ахвярадаўцаў.

Сродкі на рамонт аргана можна перавесці на адрас:

**222343, Валожынскі раён, Вішнева, ксяндзу–пробашчу Язэпу Мільдзюку.**

**Эла ДЗВІНСКАЯ, "Наша ніва".**


Фота Канстанціна Гарошкі.

**Дзмітры Лотаў, спецыяліст Вялікага тэатра оперы і балета з Масквы, рэстаўруе арган у Вішнеўскім касцёле, што на Валожыншчыне.**



У СВЕЦЕ ПАЖОЎКЛЫХ СТАРОНАК

# Калі ў Саветах збіралі грошы на войска, у Маладзечне – дзецям на абеды



У цэнтры інтэлектуальнага жыцця міжваеннай Віленшчыны былі газеты, падшыўкі якіх мы цяпер з вамі гартаем. Штодзённікі "Słowo" і "Kurjer Wileński" часам уступалі ў палеміку. Сярод іншага "Słowo" друкавала шавіністычныя матэрыялы з заклікамі ствараць магчымасці да прымусовай асіміляцыі нацыянальных меншасцяў. І ў першую чаргу, беларусаў. "Kurjer Wileński" наадварот заклікаў дзяржаву і грамадзян ствараць роўныя магчымасці для нацыянальнага жыцця беларусаў, украінцаў, яўрэяў, немцаў… Сёння разгорнем старонкі падшыўкі "KW" за 1929 год. І так, 18 студзеня 1929 года, пятніца, №15...

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

## Мілітарызацыя суседняй БССР

Ужо на першай старонцы "Кур'ер" падае інфармацыю ўласнага карэспандэнта з Мінска, сталіцы Савецкай Беларусі. Толькі што прайшлі выбары ў саветы. Праўда, не ўдакладняецца, у якія саветы – мясцовыя, Вярхоўны Савет. Сярод абраных дэпутатаў 16,7 працэнта камуністаў і камсамольцаў. У выбарах у сярэднім прымае ўдзел 52,8 працэнта тых, хто мае права голасу.

Пасля ініцыятывы усебеларускага з'езда рабочых карэспандэнтаў (рабкораў) у мястэчках БССР пачаўся збор грошай на будаўніцтва танка імя… (будзьце ўважлівыя! – А.М.) Ульянавай, жонкі Леніна. Ніводная вядомая мне біяграфія адзінай афіцыйнай жонкі Леніна не падавала яе прозвішча як Ульянава. Магчыма, карэспандэнт "Кур'ера" ў Мінску памыліўся і танк меркавалася назваць у гонар маткі ці сястры Леніна. Або на яго брані павінны быў красавацца надпіс "Крупская". Ну, цяпер пра гэта ў карэспандэнта "Кур'ера" не спытаешся. А вось вайсковы самалёт, на будаўніцтва якога таксама пачалі збіраць грошы ў БССР, меўся быць названы "Рабкор".

А тагачасная савецкай беларускай прэсе заданні ставіў Гамарнік, сакратар кампартыі Беларусі. І адбылося гэта на нарадзе рэдактараў усіх перыядычных выданняў. Газеты і часопісы павінны прапагандаваць інтэнсіўную індустрыялізацыю краіны і савецкай сельскай гаспадаркі, перамогу любых праяў прыватна-капіталістычнага жыцця, рэлігійных забабонаў, усеагульную вайсковую падрыхтоўку.

## Весткі з Маладзечанскага павета

У Маладзечне мясцовая грамада збірае грошы на абеды дзецям. Знайдзіце тут знаёмыя прозвішчы. Газета піша, што ствараюцца спецыяльныя камітэты і ініцыятывы. Падпалкоўнік Бацянскі, камандзір 86-га палка пяхоты (размяшчаўся ў Гелянове – А.М.), ініцыяваў правесці ў старостве арганізацыйны сход, каб ствараць павятовы камітэт харчавання дзяцей у агульнаадукацыйных школах. У прэзідыум камітэта ўвайшлі: школьны інспектар Кучкоўскі, Канафойскі (старшыня прэзідыума, кіраўнік школы ў Маладзечне), скарбнік – п. Кулікоўскі, сакратар і памочнік старшыні Ванда Сільвястровіч, старшыня Саюза грамадскай працы жанчын Цеслікоўская, паручніца (?–А.М.) Коўшыкава – прадстаўніца "Вайсковай Сям'і" (мабыць, грамадская арганізацыя сем'яў вайскоўцаў – А.М.) і войт Керсноўскі – членамі прэзідыума.

Акрамя таго ў камітэт увайшлі капітан Савіньскі, дырэктар гімназіі Яцуньскі, кіраўнік школы ў Бухаўшчыне Машкоўскі, панове Эйтэрман, Сыркевіч, Сараль, ксёндз Дабулевіч, ксёндз Марозаў (слабачытальнае – А.М.), рабін Абрамовіч, Марат, Крэчмер і доктар Стасевіч. У склад камісіі прызначаны таксама начальнік касы казначэйства Камянецкі, інспектар казначэйства Бранакоўскі, п.Сыркевіч, доктар Бэйнар і Эльтэрман. Складкі на абеды дзецям зрабілі арганізацыі "Вайсковая Сям'я", Жаночы Саюз Грамадскіх работ – па 100 злотых аднаразова, павятовы аддзел – 60 злотых штомесячна, бацькоўская апека ў Бухаўшчыне – 30 злотых штомесяц, старшыня Саюза польскіх купцоў у Маладзечне – 15 злотых штомесяц, маладзечанскі староста з уласных фондаў – 20 злотых.

**"Kurjer Wilenski", 18 студзеня 1929 года, №15. Пераклад з польскай.**

**Даведка "РГ".** Газета "Kurjer Wilenski" выдавалася ў міжваеннай Вільні, пачынаючы ад 1922 ці 1923 года. Пазначала сябе як незалежнае дэмакратычнае выданне. У 1929 годзе яе рэдагаваў Юзаф Юркевіч.

КАЛЯНДАР

**8 жніўня.** 45 гадоў назад (1969) у Маладзечне па вуліцы Прывакзальнай здадзены ў эксплуатацыю аўтавакзал.

***

**55 гадоў** назад (1959) Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР прыняў пастанову аб заснаванні на тэрыторы будаўніцтва Старобінскага калійнага камбіната рабочага пасёлка і наданні яму назвы Салігорск.

***

**9 жніўня.** 55 гадоў з дня нараджэння (1959) Марыі Гулегінай, беларускай спявачкі, заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь. Адна з буйнейшых спявачак нашага часу. Яна з'яўляецца ганаровым членам Міжнароднага паралімпійскага камітэта і Паслом добрай волі ЮНІСЕФ. У 2006 годзе была ўзнагароджаная ордэнам святой княгіні Вольгі III ступені.

***

**10 жніўня.** 85 гадоў з дня нараджэння Алеся Ставера (1929 – 1995), беларускага паэта, празаіка, драматурга.

***

**1920 год.** У Мінску пачала дзейнічаць тэатральная група Уладзіслава Галубка (ад 1926 года – Беларускі дзяржаўны вандроўны тэатр, ад 1932 года – трэці Беларускі дзяржаўны тэатр, дзейнічаў да 1937 года).

***

**11 жніўня.** 40 гадоў назад (1974) у Полацку адкрыты помнік Францішку Скарыну.

***

**12 жніўня** 1399 года. На рацэ Ворскла адбылася бітва паміж войскамі Вялікага Княства Літоўскага на чале з князем Вітаўтам і войскам Залатой Арды, у якой вялікакняжацкае войска пацярпела паражэнне.

***

**13 жніўня.** 1956 год. Памёр Якуб Колас, народны паэт Беларусі. Пахаваны на Вайсковых могілках у Мінску.

***

**14 жніўня.** 1975 год. У ЗША Янка і Станіслаў Станкевічы заснавалі вялікалітоўскі фонд імя Льва Сапегі – прыватны дабрачынны фонд для развіцця беларускай навукі.

***

**1952 год.** Нарадзіўся Фёдар Гулевіч (Маладзечна), беларускі акцёр цырка, клоўн. Заслужаны артыст Беларусі.

***

**55 гадоў** назад (жнівень 1959) у Радашкавічах з'явіўся новы пасажырскі маршрут Маладзечна - Радашкавічы - Гарадок - Маладзечна.

***

**45 гадоў** назад (жнівень 1969) у гарадскую рысу Валожына ўключаны вуліцы Калгасная, Чапаева і завулак Чапаева.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**



Фота з асабістага архіва ШАБУНІ.

Уладзімір Шабуня трымае на руках праўнука Косціка. Гледзячы на гэты фотаздымак, блізкія ўспамінаюць радкі вядомай песні: А если скажут мне века Твоя звезда, увы, погасла Подымет детская рука Мои года – моё богатство.

● ПАМЯЦЬ

# І томік Пушкіна на падваконні...

**МАЛАДЗЕЧНА. Неяк я сустрэла ў Мінску сталага чалавека. Разгаварыліся. Як высветлілася, гэта былы ваенны доктар, які прайшоў многія гарачыя кропкі.**

Напрыканцы я задала пытанне: "Як Вы лічыце, якіх людзей больш: добрых ці злых?" І ён адказаў: "Безумоўна, добрых. Без іх не існаваў бы наш сусвет. Яны пакідаюць аб сабе светлую памяць і добрыя ўспаміны".

Так і **Уладзімір Міхайлавіч Шабуня** пакінуў аб сабе самыя цёплыя ўспаміны, сваё святло і томік Пушкіна на падваконні...

### Стыпендыяй трэба дзяліцца

Уладзімір Шабуня нарадзіўся ў 1939 годзе ў Капыльскім раёне. Вучыўся ў школе №1 Капыля. У вольны час любіў пагуляць у валейбол, футбол, іграў на мандаліне, любіў спяваць. Спрабаваў нават паступаць ў музычнае вучылішча. Працаваў грузчыкам у саўгасе. Затым паступіў у Мар'інагорскі сельскагаспадарчы тэхнікум. Там і сустрэў сваё каханне.

З **Данутай Юльянаўнай**, будучай жонкай, Уладзімір Міхайлавіч пазнаёміўся ў сельгастэхнікуме. Ён успамінаў, што ў сталоўцы тэхнікума ўбачыў вельмі прыгожую дзяўчыну з шыкоўнай касой. І адвесці ад яе вачэй ён не мог некалькі хвілін.

А хутка справілі камсамольскае вяселле. Запрасілі дзве групы. Асабліва дружная група была ва Уладзіміра.

Стыпендыя тады была 20 рублёў, але тры чалавекі, якія па адзнаках не дацягвалі, стыпендыю не атрымоўвалі. Тады Уладзімір прапанаваў стварыць у групе так званы "фонд узаемадапамогі". І стыпендыю сталі атрымоўваць усе па 18 рублёў.

### Лёс кідаў у розныя мясціны

Пасля заканчэння тэхнікума лёс кідаў Уладзіміра Міхайлавіча ў розныя мясціны. Ён працаваў аграномам калгаса "Жары", сакратаром партыйнай арганізацыі калгаса "Зара". Паралельна вучыўся на аддзяленні падрыхтоўкі кіруючых кадраў пры Беларускім інстытуце механізацыі сельскай гаспадаркі, а затым у Мінскай вышэйшай партыйнай школе.

Працаваў інструктарам арганізацыйнага аддзела райкома КПБ Вілейкі, з 1976 года па 1983 – дырэктарам саўгаса "Карпавічы", пазней – намеснікам дырэктара саўгаса "Абадоўцы".

Тыя, з кім ён працаваў, казалі, што гэта быў сапраўдны, таленавіты кіраўнік. Ён не прымаў неабдуманых паспяховых рашэнняў. Мог выслухаць кожнага і дапамагчы.

### Тры кіламетры – не адлегласць, каб сустрэцца хутчэй

У сям'і Шабуняў нарадзілася трое дзяцей: Наталля, Ігар і Віталь. Дзяцей вельмі любілі. Ім давяралі. Цікава праводзілі вольны час. Не было, дарэчы, лепшай забавы, як сядзець побач з бацькам і слухаць, як ён чытаў у голас "Новую зямлю" Якуба Коласа.

Многія добрыя традыцыі нараджаліся ў сям'і. Напрыклад, сустракаць з дарогі бацьку. Сям'я жыла ў розных месцах. Бывала, што аўтобусны прыпынак знаходзіўся ад дома ў трох кіламетрах. Але Данута Юльянаўна разам з дзецьмі заўсёды сустракала мужа з дарогі. Бывала, што гэта быў ужо позні вечар. Многія пасажыры, якія ехалі разам, здзіўляліся, няўжо яго хтосьці будзе сустракаць. А Уладзімір Міхайлавіч з гонарам казаў: "А вы гляньце ў акно аўтобуса".

### Смерць заўсёды хадзіла побач

Цяпер дзіўна пра гэта ўспамінаць, але Уладзімір Міхайлавіч многа разоў аказваўся ў лапах смерці і кожны раз шчасліва яе пазбягаў. Адразу пасля нараджэння, калі яго з маці прыехаў з бальніцы забіраць на кані бацька, раптам панёс конь. Тады толькі дзіва дапамагло застацца жывымі ўсім траім.

Пазней, гады праз чатыры, бацька спрабаваў пасадзіць маленькага Валодзю на каня, каб абучыць яздзе. І як толькі чатырохгадовае дзіця ўхапілася за грыву каня, конь панёсся, што вар'ят. І тады толькі нейкае дзіва выратавала яго.

А быў выпадак, калі маленькі Уладзімір, як лічылі жыхары вёскі, выратаваў ад смерці ўсіх жыхароў. У 1942 годзе ў вёску ў Капыльскім раёне, дзе жыла і сям'я Шабуняў, прыйшлі немцы. Сагналі ўсіх жыхароў у хлеў, каб спаліць. Усе разумелі, для чаго іх сагналі: пачалі плакаць, маліцца. А трохгадовы Уладзімір бегае сярод гэтых людзей, дурэе. Кажа ўсім: "Ну чаго вы плачаце? Зараз нас адпусцяць, і пойдзем дадому каровак даіць".

Што потым здарылася, ніхто не зразумеў, але ўсіх сапраўды адпусцілі. Потым жанчыны вясковыя ледзьве не зацалавалі Уладзіміра, казалі, што ён іх вызваліцель.

Ужо дарослым Уладзімір Міхайлавіч трапіў у аварыю на грузавым аўтамабілі, які падвозіў яго. Машына перакулілася. Людзі, што прыпыніліся побач, казалі: "Тут выжыўшых, дакладна, не будзе". Тым не менш і тут абышлося драпінамі.

А затым некалькі разоў Уладзіміра Міхайлавіча спрабавалі зламаць, зваліць з ног розныя хваробы. Бывалі моманты, што дактары не дазвалялі яму ўставаць з ложка ці раілі вельмі пацяху хадзіць. А ён назло ўсім хваробам не толькі не ляжаў, а бегаў, скакаў, гуляў у футбол, хадзіў на лыжах. Ён не здаваўся і не зламаўся. Яго мужнасці мог бы пазайздросціць кожны.

Уладзімір Міхайлавіч умеў сябраваць. У яго доме дзверы заўсёды былі адчыненыя для сяброў. І яны заходзілі. І ў самыя цяжкія хвіліны яго жыцця, да апошняга моманту, да апошняй секунды з ім былі тыя, хто яго паважаў, любіў, каму сапраўды ён быў дарагі.

Больш за ўсіх Уладзімір Міхайлавіч чакаў дзяцей, унукаў, праўнукаў. Ён вельмі любіў сваю сям'ю. А яшчэ ўсіх называў толькі памяншальнымі імёнамі: Сашка, Сярожка, Ігарок, Віталік. Такі ўжо характар.

Да апошняга часу Уладзімір Міхайлавіч займаўся гаспадаркай. Любіў працаваць па доме, ды і не ўяўляў жыцця без працы, бо прывык да яе з дзяцінства. А калі здараліся вольныя хвіліны, то спрабаваў пісаць вершы. А яшчэ вельмі любіў чытаць.

Ужо 40 дзён на падваконні ляжыць раскрыты томік Пушкіна. І закрыць гэтую старонку, якую Уладзімір Міхайлавіч так і не дачытаў, ні ў кога не падымаецца рука...

**Антаніна ВАСЮКЕВІЧ.**

● КУЛЬТУРА

# Свята вёскі адзначылі ў Ракаве

**ВАЛОЖЫН. У ліпені аграгарадок Ракаў адсвяткаваў свой дзень нараджэння.**

І хаця дакладных звестак пра дату заснавання Ракава няма, аднак мястэчка з гісторыяй у сем стагоддзяў заслугоўвае мець сваё паўнавартаснае свята.

Пра гэта гаварыў у сваім віншаванні пісьменнік і літаратуразнаўца ўраджэнец Ракава **Вячаслаў Рагойша**. Гэта адчувалася ў кожнай дзеі, кожным слове і гаспадароў, і гасцей свята.

Пачалося яно з ушанавання ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны. Спачатку выступіў 94-гадовы **Мікалай Шумейка**. Затым прысутныя хвілінай маўчання і ўскладаннем кветак да помніка ахвярам вайны ўшанавалі памяць загінулых. Завяршылася ўрачыстая частка парадам салдат вайсковай часці №01266.

На свяце адзначылі жыхароў старэйшага пакалення – ракаўчан **Анатоля Буйніцкага, Руфіну Балотнік, Алену Цішэвіч**, якой сёлета споўнілася 104 гады. Не абышлі ўвагай і самага маленькага жыхара – нованароджаную **Валерыю Лучыновіч**.

А сем'і **Дземскіх, Стахоўскіх, Русецкіх, Гецманаў** падзяліліся сакрэтамі свайго сямейнага шчасця і былі адзначаныя за лад, згоду і любоў у сваіх сем'ях.

У Ракаве шмат прыгожых сядзіб, якія з вясны да позняй восені вабяць вока пышнай зелянінай і ўтульнымі падворкамі. У намінацыі "Самая моцная гаспадарка" вылучылі самых руплівых і працавітых – спадароў **Гапановічаў, Кучмінскіх, Купрыенкаў**.

Пачэснае месца на свяце займаў герб Ракава, вышыты ўмелай рукой мясцовай мастачкі **Лізаветы Пятроўскай**.

Прыйшлася ўсім даспадобы канцэртная праграма. Дзеці мясцовай школы падарылі жыхарам і гасцям вёскі феерычнае выступленне.

Танцавальныя нумары ўразілі сваёй яркасцю і разнастайнасцю, а спевы вакальнай групы пад кіраўніцтвам **Алены Русецкай** адгукнуліся ў сэрцы кожнага. А пад бадзёрыя, заліхвацкія песні валожынскіх "Сваякоў" ракаўчане пайшлі ў скокі.

Усіх, хто стаміўся, чакала салдацкая каша, якая варылася ў палявой кухні.

**Наталля ТУР.**



Валянціна Грабоўская (Скляповіч), жыхарка вёскі Рум на Валожыншчыне.



Ніна Васілеўская (Скляповіч), жыхарка вёскі Рум на Валожыншчыне.



Ніна Галіеўская (Наквас), жыхарка Валожына.

# Расстрэл яўрэяў у Валожыне. Гавораць сведкі

**ВАЛОЖЫН. Ім тады было па восем-дзевяць гадоў. У Ніны Галіеўскай, Валянціны Грабоўскай і Ніны Васілеўскай і цяпер у памяці паўстаюць тыя жудасныя карціны, такія цікавыя ім тады, такія нечалавечыя сёння.**

На месцы, дзе ў часы Другой сусветнай вайны расстралялі і закапалі дзвесце яўрэяў, хочуць пабудаваць жылыя дамы. Да гэтага часу ніхто не праводзіў тут археалагічных даследаванняў. І сёння мясцовыя жыхары ходзяць па чалавечых костках.

Нядаўна па былым стадыёне ганялі мяч футбалісты, там ладзілі фестывалі і святы. Танцавалі на астанках тых, хто паміраў у страшных пакутах.

Цяпер тут ціха. І хто як учора бачыць карціны расстрэлаў, пакутаў, жахаў, якія напаткалі яўрэяў у Валожыне, гатовыя перажываць зноў тыя падзеі.

Большасць з тых, хто памятае, якая трагедыя тут некалі здарылася, ці загінулі, ці выехалі з гэтых мясцінаў, ці памерлі. Бо час ідзе.

**Распаведы аб падзеях больш чым 70-гадовай даўніны не заўсёды супадаюць у дэталях, могуць мець недакладнасці. Адно зразумела – усе тры жанчыны памятаюць, як дзвесце чалавек расстралялі і закапалі ў гэтай зямлі.**

## Дзяўчаты перад смерцю пачалі спяваць

Узгадвае падзеі мінулага **Ніна Галіеўская** (дзявочае прозвішча – Наквас). Нарадзілася ў 1933 годзе.

“Мне тады было восем гадоў.

Мы пасвілі кароў і гулялі ў нешта. Да нас прыдышла Стэфаніда Карабан, яе Стэфкай звалі. Гаворыць: “Дзеці, схадзіце на стадыён, паглядзіце, што там робіцца. Страляюць і страляюць. Толькі не выходзьце, каб вас не ўбачылі”.

Мы ўсёй чарадой, чалавек сем, і яна, пайшлі. Ляглі ля агароджы стадыёна, толькі вочы высунулі.

Там расстрэльвалі. Чалавек дзвесце паклалі, ад 16 да 25 гадоў. Іх падманулі. Сказалі: “Збірайцеся і на работу”. Паліцаі іх прыгналі ў казарму і закрылі.

Потым узялі дзесяць чалавек і выкапалі яму. І расстралялі гэтых яўрэяў.

Па дзесяць чалавек зганялі сюды. Паліцаі не стралялі – два эсэсаўцы. Ставілі ў рад адных і другіх і стралялі з пісталетаў.

Паліцаі гоняць мужчын, дзесяць чалавек. І па приступках іх піхаюць, яны падаюць. Ужо здагадаліся, што з імі рабіць будуць. І эсэсаўцы стралялі. Каго забілі, каго ранілі. І потым падпіхвалі іх у гэтую яму.

Пасля гоняць дзесяць чалавек дзяўчат. Такія добрыя дзевачкі. Апрануты́я зусім лёгка. Іх гоняць, яны ідуць па гэтых сходах. Сышлі, пачалі абдымацца і цалавацца. Мабыць, развітваліся.

А гэтыя гоняць іх, піхаюць. Адна дзевачка ўпала, яе паднялі. На сцежку ўжо ступілі. І тут яны заспявалі. Але на незразумелай мове, можа, па-яўрэйску. Мы ж не разумелі, малыя.

Заспявалі. І вось прыгналі да ямы, мы глядзім, так дзіўна ўсё гэта. Там дзевачка чорненькая такая, кучаравенькая, гаворыць: “Гітлеру капут, рускія ўсё роўна перамогуць”.

Дык гэты гестапавец раз – і стрэліў у яе. Яна схапілася за параненае месца, кроў цячэ. Яе другая дзяўчына падхапіла. Яна як плюне гэтаму эсэсаўцу ў морду. Дык ён дастаў насоўку, выцерся і ў яму кінуў. Крутануўся на назе і ў гэтую дзяўчыну стрэліў. І яны абедзве разам зваліліся.

І ведаеце, гэта такая страшная карціна. Іх ставяць у рад па пяць, па чатыры. Яны абдымаюцца. Тут іх пачалі страляць і піхаць у яму. Мы ляжым. Адна дзевачка заплакала наша.

Стэфаніда Карабан кажа: усё, сыходзім адсюль, сыходзім. І мы ўсе павярнуліся і пабеглі праз рэчку.

Доўжылася гэта да гадзін чатырох. Потым яны скончылі, гэтыя эсэсаўцы. Усіх пастралялі, павярнуліся ды зайшлі на гару.

А ў яме ж жывыя засталіся. Каб яны яшчэ хвілін дзесяць там паляжалі, то многія сышлі б. Але эсэсаўцы азірнуліся. А людзі выскокваюць з ямы і праз гэты стадыён уцякаюць сюды, на Леніна. Тады вуліца Навагрудскай звалася.

Яўрэі ўцякаюць, паліцаі іх хапаюць, страляюць у яму з аўтаматаў. Жудасна было глядзець. Побач з ямай паставілі паліцая. Ён ахоўваў, не даваў нікому вылезці.

Паліцай аднаму стрэліў у руку. Ён пабег праз раку і схаваўся ў туалеце. А тут жанчына выскачыла і кажа: “Хутчэй, хутчэй у хлеў давай!” Ён застаўся жыць, толькі ранены быў у руку. Бліжэй да вечара сышоў.

Раніцай пасвілі кароў каля рэчкі, прывезлі бочку вады, нейкая белая была, мабыць, з нечым. Залілі гэту яму, і паліцаі засыпалі яе. Дык ведаеце, зямля хадзіла ходуном тры дні. Мы падыдзем, паглядзім. І ўцякаем, страшна, баяліся.

А да нас з гета хадзіў яўрэй, Сёмай яго звалі. Дошку яны выбівалі і праз гэтую дзюрку лазілі. Мама заўсёды давала яму і хлеба, і таго, і сяго. Аднойчы нейкае свята ў іх было яўрэйскае. Мама качкі дзве зарэзала і аддала. Ні чысціла, нічога, проста з пер'ем. Там ужо яны самі пачысцілі.

У той дзень, бліжэй да вечара, ён прыйшоў. Мама мая гаворыць: “Ведаеш, вашых сёння стралялі тут на стадыёне. Дзвесце чалавек забралі на работу і ніхто не вярнуўся”. Ён так здзівіўся.

Добры малец быў. Неяк бацька мой кажа яму: “Слухай, Сёма, вас будуць там страляць заўтра. Давай я цябе вывезу адсюль, а там ты далей сам сыдзеш”.

Пасля ён прыходзіць і кажа: “Мама не дазваляе. Нас чацвёра ў яе. Не хоча застацца адна з гэтымі дзецьмі”.

І вось пасля гэтага ён больш не прыходзіў да нас. Мабыць, загінуў. Там, дзе цяпер масласырзавод, раней быў кароўнік. І вось з гэтай геты туды сагналі людзей. Сказалі ім распранацца.

Цэлы тыдзень нельга было выйсці на вуліцу. Чалавечае мяса ведаеце ж, як. Пах. Усе там загінулі.

## Дзеці залезлі ў хлеў і назіралі

Узгадвае **Валянціна Грабоўская** (дзявочае прозвішча – Скляповіч). Жанчына нарадзілася ў 1931 годзе.

“Я жыла ў Валожыне, там цяпер вуліца Набярэжная.

У той час, як расстрэльвалі, мне было ну гадоў можа дзесяць ці адзінаццаць. Дзеці ж такія дапытлівыя.

Як пачулі, што там стрэлы, залезлі ў такі звычайны хлеў, як на вёсцы. Там прарэзанае акенца. Нас недзе чацвёра дзяцей. І ў гэнае акенца ўсе. Назіралі, што далей будзе.

А там ужо на стадыёне былі выкапаныя ямы. А капалі самі яўрэі. Іх бралі на работу.

У нас у Валожыне, дзе едзеш на сам цэнтр, да моста было гета. Іх адтуль сабралі.

І расстрэльвалі. І каля гэнай гета на беразе. І на гары там, на Папоўцы. Там цяпер забудавалі ўсё. Ужо і тых месцаў не пазнаеш.

Ну, і ведаеце. Яўрэяў сагналі ў воінскі клуб, ваенны. Ён і цяпер ёсць за райвыканкамам. З гэнага клуба іх сюды прыгналі. Там паставяць наверсе. Тады згоняць да гэтай ямы. Па пяць чалавек. Іх расстрэльваюць, пасля другую групу вядуць.

І як, мусіць, кончылі гэныя немцы, завярнуліся і пайшлі адсюль. А ў яме можа хто і насмерць, а каго і толькі ранілі. Каторыя пачалі падымацца, выпаўзаць адтуль. І праз рэчачку. А тут жа нашы дамы ўсе. А яны па агародах і ўцякалі. І туды, дзе цяпер вуліца Заградная. Там жа не было яе. Жыта расло. А як жыта расло, дык яны туды хаваліся.

Як немцы заўважылі, што тыя з ямаў уцякаюць, дык яны за імі. Такі стрэл пачаўся! Немцы не глядзелі, стралялі і па нашых хатах, па ўсім. Тут бацькі як на нас пачалі крычаць. Дзеці, кладзіцеся! Бо ж толькі кулі свішчуць!

## Дзіця паклалі на кучу расстраляных і забілі

Распавядае **Ніна Васілеўская** (Скляповіч). Нарадзілася ў 1932 годзе.

“Стадыён тады быў загароджаны плотам. І мы ж у гэныя шчыліны ўсе глядзелі, як там расстрэльвалі. Адразу іх гналі ў казарму, яны там мылі ўсё, чысцілі. Тады іх вялі прама з казармаў на стадыён, ставілі па пяць чалавек у рад. І стралялі. Мабыць, ні ўсім пападала куля. І вось мы глядзелі ў гэныя дзюрачкі і пайшлі на гару.

Да казармаў дайшлі. А каторыя жывыя ў яме сталі падымацца. І праз гэты забор ды ўцякаць. Немцы азірнуліся, бачаць, што гэныя праз забор – і страляць. Дык мы ўперад малыя дзеці, яўрэі за намі, а за імі – стрэлы. Тады мяне мама моцна біла, гэта ж маглі забіць.

І куды яны беглі, там жыта было. Яны туды. Іх многа, можа, там і пахавалася, хто паспеў, пакуль немцы іх не дагналі.

А ад моста цягнулася па адным баку гета. Там, дзе была раней вуліца Еўлашы. Цяпер яна завецца Кастрычніцкая.

Раз мы былі на тым мосце. Дык выводзілі прама на бераг гэтай рэчкі яўрэяў і расстрэльвалі. Але нас не ганялі. Можа, яны там нас і не бачылі. А потым я гляджу, мамачкі, во такое во маленькае дзіцятка! Як цяпер помню. Там была ўжо такая куча расстраляных, і дзіця на гэтую кучу паклалі. І немец зверху пісталетам. І застрэліў гэна дзіця.

**Ад рэдакцыі: тэкст максімальна набліжаны да дыктафоннага запісу. Мова жанчын захаваная.**
**Настасся РОЎДА.**

ТУРЫЗМ

# Прайшоў 10 турзлёт работнікаў "Забудовы"

**ВІЛЕЙКА. Двухдзённыя спартыўныя спаборніцтвы праходзілі на базе адпачынку ў вёсцы Шчарка Вілейскага раёна 26-27 ліпеня.**



Фота Святланы МАЛІНОЎСКАЙ.

Адным са спаборніцтваў турзлёту было перацягванне каната.

На дзясятыя па ліку спартыўныя спаборніцтвы прыехалі супрацоўнікі кампаніі і іх сем'і, а таксама групы падтрымкі.

Пра тое, як яны праходзілі, распавяла госць турзлёту прадстаўніца маладзечанскага турысцкага клуба "Пілігрым" **Святлана Маліноўская.**

– З кожным годам колькасць удзельнікаў турзлёту расце, а само мерапрыемства становіцца больш маштабным. Сёлета на турзлёт "злецелася" больш за 200 чалавек.

За прызавыя месцы змагаліся дзевяць камандаў-прадстаўніц розных аддзелаў холдынгу "Забудова". На працягу двух дзён удзельнікі камандаў пераадольвалі паласу перашкод, перацягвалі канат, спаборнічалі ў стральбе з пнеўматычнай зброі, гулялі ў валейбол. У вячэрні час адбыўся канцэрт-прэзентацыя ад кожнай з камандаў. Акрамя таго, у гэтым годзе арганізатары турзлёту падрыхтавалі і дзіцячую спартыўную паласу перашкод.

– Усе без выключэння 14 хлопчыкаў і дзяўчынак атрымалі пакеты з падарункамі, – дадала Святлана Маліноўская. – Асабліва прыемна бачыць, як на такія мерапрыемствы з'язджаюцца цэлымі дынастыямі. Напрыклад, сям'я Кірыловічаў была прадстаўлена ажно трыма жаночымі пакаленнямі. Гэта **Таццяна Кірыловіч**, **Ірына Кірыловіч** і ўнучка Тацціяны і дачка Ірыны – **Маша.**

На мерапрыемстве прысутнічалі генеральны дырэктар кампаніі **Алег Гайдукевіч** і старшыня прафсаюзнага аб'яднання **Людміла Мікуліч**, якія ўваходзілі ў склад журы на выяўленне лепшай каманды.

У спаборніцтвах сярод дарослых суддзі вызначылі пераможцаў як у асобных відах, так і ў агульным камандным заліку. Па выніках двух дзён першае месца заваявала каманда "ДОЗ" (дрэваапрацоўчага завода), другое месца – каманда "АГМ" (аддзела галоўнага механіка), а трэцяе месца – каманда "Забудова-Аўтатранс". Усе тры каманды атрымалі дыпломы і турыстычныя палаткі.

**Наталля ТУР.**

## "Пілігрым" запрашае на велавандроўку

**МАЛАДЗЕЧНА. Велападарожжа пройдзе з 16 па 24 жніўня.**

Сёлета кіраўнік клуба "Пілігрым" **Сяргей Бялкоў** распрацаваў новы маршрут: Маладзечна-Віцебск-Полацк. І вяртанне з Полацка ў Маладзечна цягніком.

Але гэта будзе не проста велападарожжа. У планах удзельнікаў вандроўкі – наведванне гістарычных мясцін, знаёмства з культурнай спадчынай... – кутэсцей Віцебска і Полацка.

– А рамантыкаў у нашым падарожжы чакаюць ночы ў палатках пад зорным небам і самая смачная ежа, прыгатаваная на вогнішчы, – раскрыла некаторыя сакрэты падарожжа яго ўдзельніца **Антаніна Аляксандрава.**

Удзельнікі велавандроўкі запрашаюць усіх ахвотных далучыцца да іх. Калі вас зацікавіла інфармацыя, вы можаце звярнуцца да Сяргея Бялкова па мабільным тэлефоне: **+375-29-508-69-67**

**Наталля ТУР.**

ФУТБОЛ

## Таварыскі матч. ФК "Смаргонь" – ФК "Гарадзея" 1:1

**СМАРГОНЬ. З жніўня футбольны клуб "Смаргонь" правёў таварыскую сустрэчу з клубам "Гарадзея". Гульня адбылася ў рамках падрыхтоўкі да другога круга чэмпіянату Беларусі.**



Фота fc-smorgon.by

Момант гульні.

Прыняўшы пад увагу 30-градусную спякоту, было вырашана замест двух таймаў па 45 хвілін, правесці тры па 25. Улічваючы таварыскі статус матча, колькасць замен была неабмежаваная і абодва трэнеры далі магчымасць пагуляць практычна ўсім гульцам, якія былі заяўленыя на гэту гульню.

У першыя 25 хвілін больш момантаў для ўзяцця варот стварылі гарадзейцы. Запомніліся іх два ўдары ў штангу і перакладзіну.

У гаспадароў сустрэчы быў, па сутнасці, адзін момант: добрым пасам **Арцём Давідовіч** вывеў на ўдарную пазіцыю **Вячаслава Замару**, але апошні не здолеў трапіць у вароты "Гарадзеі". За чатыры хвіліны да другога перапынку "чырвона-чорныя" зарабілі штрафны.

**Аляксей Скварнюк** па-майстэрску закруціў мяч у верхні вугал варот, не пакінуўшы тым самым шанцаў **Скіндэрысу,** піша сайт fc-smorgon.by.

У адрозненне ад галоўнага трэнера "Смаргоні", які ўжо ў другім тайме пачаў праводзіць замены, **Сяргей Яромка** (трэнер ФК "Гарадзея") толькі пасля другога перапынку пачаў уліванне "свежай крыві". Трэці тайм "Гарадзея" пачала, маючы на полі восем новых гульцоў. Аднавіў раўнавагу ў ліку **Дзмітры Лебедзеў.**

Заўзятары "чырвоначорных" да гэтага часу памятаюць яго галы са штрафных удараў у складзе "Смаргоні". І ў гэтым матчы Дзмітры таксама вызначыўся са штрафнога на 67-й хвіліне. У канцоўцы сустрэчы "Гарадзея" мела рэальную магчымасць вырваць перамогу, але, выйшаўшы адзін на адзін з варатаром, **Руслан Тэвераў** не трапіў у вароты. Парэчы, і гаспадары за пару хвілін да фінальнага свістка таксама маглі схіліць вагі на сваю карысць. Спачатку **Аляксандр Сямёнаў** занадта доўга пачаў утаймоўваць мяч у штрафной, замест таго каб ударыць, а затым **Дзмітры Жданок** з межаў штрафной нанёс удар, але мяч трапіў прама ў рукі варатару гасцей. У выніку сустрэча так і завяршылася нічыйным вынікам.

**Аддзел інфармацыі.**

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Ці трэба гораду свая хакейная каманда?



**Аляксей Маліцкі, студэнт:**

– Так. Я хакей люблю, на матчы хадзіць буду. Як раней абыходзіліся без уласнай каманды? А нашым хакеістам трэба прабіваць сабе шлях на Алімп. З такой падтрымкай, як маладзечанцы, я ўпэўнены, яны змогуць усё.



**Людміла Нехвядовіч, у дэкрэтным адпачынку:**

– Спартыўныя мерапрыемствы паважаю. Сваё дзіця таксама плануем паставіць на канькі, таму добра, што гэты спорт у нас развіваецца. Канешне, бянтэжыць той факт, што кошты на арэнднае жыллё з-за прыезду каманды выраслі ў разы.



**Георгі Корж, галоўны спецыяліст райвыканкама:**

– Развіццё спорту ў Маладзечанскім раёне вельмі важна, як і ўласная хакейная каманда. Для падрастаючага пакалення яны будуць прыкладам. Упэўнены, што і наведвальнасць будзе добрая. У нас шмат хакейных фанатаў, якія з задавальненнем будуць хварэць за сваю каманду.



**Дзмітры Рухлевіч, футбольны заўзятар:**

– Каманда трэба хутчэй структуры ХК "Дынама-Мінск", чым самому гораду. У плане відовішчнасці ў Маладзечне ёсць куды схадзіць і на што паглядзець, ёсць каго падтрымліваць. Гэта каманда ні для каго не стане роднай, звычайны праект, але прапісаны ў нас.



**Аляксандр Мартышкін, кіроўца:**

– Хакейная каманда патрэбная! Але спонсар павінны быць сур'ёзны, не за кошт гарадскога бюджэту.



**Павел Малашка, аматар спорту:**

– Лепш каб футбол быў на нармальным узроўні, хакей шмат грошай патрабуе!



**Жанна Асіповіч, настаўніца:**

– Безумоўна. Я хакей люблю. І вельмі рада, што ў нас будзе свая каманда, на гульні якой можна будзе прыходзіць і шчыра хварэць.

**Падрыхтавала Наталля ТУР.**

# Мова дзетак – жыцця кветак

Веня (4 гады) і тата сядзяць на кухні, ядуць вінаград. Тата забаўляецца тым, што падкідвае вінаградзінкі і ловіць іх на ляту. Веня захоплена:

– Ух ты-ы! Ды ты прам дрэсіраваны!

***

Насця (5 гадоў) катуе бацькоў:

– А мы з Сярожам маленькія былі ў мамы ў жывоціку?

– Угу.

– А мы што там, у сярэдзіне, зусім голыя былі?!

– М-м-м, ну так ...

***

Абдымаю сыночка Марка (3 гады 4 месяцы) і шапчу:

– Я цябе люблю.

– На здароўе.

***

Пазнаёміліся ў двары з прыгожай дзяўчынкай. Знаёмства было нядоўгім, але паненка вырашыла часу не губляць і, чырванеючы, кажа Максіму:

– Ты са мной ажэнішся?

Максім глядзіць так ацэньваючы:

– Не ведаю! Давай паглядзім, якая ты вырасцеш!

***

Рома (4 гады):

– Мама, паехалі са мной і з дзедам на рыбалку!

– Не, Рома, не атрымаецца. Рыбалка – не жаночая справа.

– Што ты, мама, вельмі жаночая: трэба проста сядзець і маўчаць.

***

Даня (4,5 года):

– Мам, а кім я буду, калі вырасту?

– Ну, напэўна, касманаўтам.

Азадачана:

– А што, на планеце Зямля ўжо працы не засталося?

***

Руслан (7,5 года) сядзеў, разглядаў фотаальбом, дзе ён быў зусім маленькі. Раптам рэзка закрывае альбом:

– Ма-а-ам, я ледзь не заплакаў слязьмі... Да чаго я мілы быў у дзяцінстве.

***

Ксюша (8 гадоў) дзеліцца новымі навыкамі:

– На ўроку працы навучылася прышываць гузікі. Тата пахваліў:

– Як выдатна! Ты цяпер, напэўна, зможаш нават маю шкарпэтку зацыраваць!

На што дзіця пасля хвіліннага разважання кажа:

– Не, тата, баюся, я табе толькі гузік на яе прышыць змагу.



## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 | | |
| | | | | 8 | | 3 | 9 | |
| 9 | | | | | 4 | | | 7 |
| | | 8 | 3 | 9 | | | 7 | |
| | 7 | 5 | 8 | | 1 | 4 | 3 | |
| | 9 | | | 2 | 7 | 8 | | |
| 5 | | | 1 | | | | | 2 |
| | 8 | 1 | | 7 | | | | |
| | | 7 | | | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 8 | 9 | 4 | 7 | 3 | 6 | 1 | 2 | 5 |
| 7 | 1 | 2 | 5 | 8 | 6 | 3 | 9 | 4 |
| 9 | 5 | 3 | 2 | 1 | 4 | 6 | 8 | 7 |
| 1 | 4 | 8 | 3 | 9 | 5 | 2 | 7 | 6 |
| 2 | 7 | 5 | 8 | 6 | 1 | 4 | 3 | 9 |
| 3 | 9 | 6 | 4 | 2 | 7 | 8 | 5 | 1 |
| 5 | 3 | 9 | 1 | 4 | 8 | 7 | 6 | 2 |
| 6 | 8 | 1 | 9 | 7 | 2 | 5 | 4 | 3 |
| 4 | 2 | 7 | 6 | 5 | 3 | 9 | 1 | 8 |

## ● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



Фота Настассі РОЎДЫ.

**Сапраўдным сябрам не сумна ніколі. Асабліва калі ў двары ёсць арэлі, а ў кішэнях – семкі.**

## ● РЭПЕРТУАРЫ



## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыйныя прыгоды "**Кароль сафары**" 3D (Паўднёвая Афрыканская Рэспубліка, 2013)
7 жніўня – у 16:30
9 жніўня – у 14:00
10 жніўня – у 14:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Фантастычны трылер, баявік "**Планета малпаў: Рэвалюцыя**" 3D (ЗША, 2014, 2 серыі)
13 жніўня – у 16:30
Цана білета – 50 000 рублёў

Баявік, прыгоды "**Геракл**" 3D (ЗША, 2014)
10 жніўня – у 21:00
9 жніўня – у 16:00
8, 12 жніўня – у 18:30
Цана білета – 55 000 рублёў

Фантастычны баявік, прыгоды "**Вартавыя Галактыкі**" 3D (ЗША, 2014)
8 жніўня – у 16:00
10 жніўня – у 16:30
13 жніўня – у 21:00
7, 9, 11 жніўня – у 18:30
Цана білета – 55 000 рублёў

Прэм'ера! Трылер, баявік "**Насустрач шторму**" 2D (ЗША, 2014)
10, 13 жніўня – у 19:00
7, 8, 9, 11, 12 жніўня – у 21:00
Цана білета – 45 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Прыгоды мышаняці**" (Перу, 2013)
10 жніўня – у 15:00
Цана білета – 15 000 рублёў

Анімацыя "**Олі і скарб піратаў**" (ЗША, 2013)
7 жніўня – у 16:00
8 жніўня – у 16:30
9 жніўня – у 16:00
Цана білета – 15 000 рублёў

Прыгоды "**Гэта твой дзень**" (Расія, 2014)
12, 13, 14 жніўня – у 16:00
Цана білета – 15 000 рублёў

Меладрама "**Госця**" (ЗША, 2013)
8, 9, 10 жніўня – у 19:00, 21:30
7, 11 жніўня – у 21:30
Цана білета – 35 000 тысяч рублёў

Камедыя "**Падарунак з характарам**" (Расія, 2014)
12, 13 жніўня – у 21:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Меладрама "**Пітэр. Лета. Каханне**" (Расія, Вялікабрытанія, 2013)
14 жніўня – у 21:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Камедыя "**Падарунак з характарам**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
8, 9, 10 жніўня – у 18:00
Кошт білета – 30 000 рублёў

Трылер "**Трывожны выклік**" (ЗША, дазволены для паказу гледачам з 16 год)
8, 9, 10 жніўня – у 18:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Анімацыя "**Лясны патруль**" (Нарвегія, без узроставых абмежаванняў)
9, 10 жніўня – у 15:00
Кошт білета – 15 000 рублёў

Баявік "**Я – Франкенштэйн**" (Аўстралія, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
13, 14 жніўня – у 18:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Меладрама "**Анжаліка, маркіза анёлаў**" (Францыя, дазволены для паказу з 16 год)
13, 14 жніўня – у 18:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Тэл.: **8(01771), 5-43-61, 5-60-95, 5-68-59**

## ● ГАРАСКОП (8-15 ЖНІЎНЯ)

**Авен.** Вы так цяпер акружаны людзьмі, што бясконцыя зносіны сталі стамляць. Змірыцеся, восенню сітуацыя зменіцца.

**Цялец.** Цяпер для вас наступае перыяд поўнага бязмежнага шчасця.

**Блізняты.** Гэты перыяд можа апавясціць вас аб заканчэнні рамана, партнёрства, узаемаадносін з жанчынамі ці сумеснага прадпрыемства, але разам з тым садзейнічаць стварэнню новых адносін у пераліччаных сферах.

**Рак.** Для вас абаянне, фізічная прывабнасць ці абедзве гэтыя якасці разам знаходзяцца ў цэнтры ўвагі. Навакольныя знаходзяць вас яшчэ больш прывабнымі, чым вы самі сябе адчуваеце. Перыяд удачны для дэманстрацыі цэласнасці і цвёрдых прынцыпаў.

**Леў.** Старайцеся не нагружаць сябе рознымі справамі, прысвяціце час адпачынку ці няспешнаму прывядзенню спраў у парадак. Вам будзе ўсё ўдавацца, чаго будзе катастрафічна не хапаць, то толькі часу.

**Дзева.** Укладайце сілы ў любімую справу, а ў асабістым жыцці ідзіце на ўступкі, гэта дапаможа захаваць адносіны.

**Шалі.** Не разглядайце сітуацыю, якая склалася, з пазіцыі сілы, пачакайце пару дзён, і абставіны самі складуцца на вашу карысць.

**Скарпіён.** Перыяд характарызуецца стымулюючай энергіяй. Нават калі ў пачатку гэта энергія была народжаная гневам і расчараваннем, то пры рашучых намаганнях яна будзе накіраваная на ажыццяўленне пазітыўных дасягненняў.

**Стралец.** На працы справы не ідэальныя, адная заўсёды можна выправіць агрэхі. І калі вы гэта зробіце, у далейшым атрымаеце павышэнне або заслужыце ўвагу з боку кіраўніцтва.

**Казярог.** Перамены ў жыцці вас проста захліснулі. Адзінае, што не павінна мяняцца – гэта ваш пункт погляду на некаторыя маральныя пытанні, духоўныя.

**Вадалей.** Пры пазітыўным настроі ўсе непрыемнасці абернуцца поспехам. На вашым шляху можа ўзнікнуць новы чалавек, адносіны з якім могуць моцна захапіць.

**Рыбы.** Вам усё жыццё даводзіцца змагацца з лянотай, інертнасцю і страхамі ў душы, і гэта перашкаджае правільнаму эвалюцыйнаму развіццю.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155
9 771991 715006

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

Камент-эксперт
Rh.by
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

## НАДВОР'Е

**9 жніўня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +20 +28 | | +20 +26 | | +21 +27 | | +22 +27 | |
| | 739 | → 2 | 739 | → 2 | 740 | ↑ 1 | 739 | ↑ 1 |
| Вільня | +19 +27 | | +19 +27 | | +17 +29 | | +18 +29 | |
| | 747 | ↑ 1 | 748 | ↙ 4 | 749 | ↙ 4 | 747 | ← 2 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 5.39
Захад 20.56
Даўжыня дня 15.17

Усход 19.40
Захад 3.54
Квадра 3




## ПРЫКМЕТЫ

- У каталікоў 10 жніўня – Лаўрын. (На Лаўрына спяшай да млына).
- 14 жніўня – першы Спас, мядовы. Спас – халодныя росы. Пчолы перастаюць насіць ношак. Шпакі і гракі збіраюцца ў чароды.

## Чытайце праз тыдзень:

**Сёлета маленькі грамадзянін Беларусі Лёша, які жыве і вучыцца ў Амерыцы, прыехаў на канікулы ў Маладзечна разам з маці. Як ён трапіў у клас для адораных амерыканскіх вучняў, чытайце ў наступным нумары "РГ".**







## Афарызмы пра котак

У сабак ёсць гаспадары, у котак – абслуговы персанал.

***

Людзі, якія не любяць катоў, у наступным жыцці будуць мышамі.

***

Котка можа быць лепшым сябрам чалавека, але яна ніколі не апусціцца да таго, каб гэта прызнаць.

***

Калі б каціначае варкатанне прадавалася ў таблетках, фармацэўтычны рынак атрымаў бы ідэальны сродак супраць дэпрэсіі.

***

Нават самае маленькае з каціных – дасканаласць.

***

Бог стварыў котку, каб у чалавека быў свой дамашні тыгр.

***

З пункту гледжання коткі, самае ўтульнае месца ў доме – гэта месца, на якім у дадзены момант сядзіць гаспадар.







ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ШАБЛЯХ

## Якіх забаўляльных мерапрыемстваў не хапае ў Беларусі?



**Віталь Качаткоў, спявак, Маладзечна:**

– Так адразу не адкажаш. Тут я сябе адчуваю дыназаўрам, мастадонтам. Цяжка ўвайсці ў атмасферу. Лёгкасці хочацца і як мага больш клоўнаў.



**Міхаіл Марыкін, праграміст, Гродна:**

– Мне падабаецца ўсё. І гэта добра, што такія фестывалі адбываюцца не так часта. Хоць засумаваць можна. А сюды прыехаў, каб гурт "Сярэбранае вяселле" распісаўся на маёй майцы.



**Ігар Шухно, прадпрымальнік, Мінск:**

– Мне не хапае фестываляў менавіта рокавага напрамку. А сюды прыехаў, каб паслухаць Дэльфіна.



**Аўгіня Манцэвіч, журналістка, вёска Лохаўшчына:**

– Вось такіх мерапрыемстваў магло б быць больш. Фармат клёвы. І адпачынак, і канцэрт, і гандаль. У гэтых краях рэдка з'яўляюцца людзі. Таму фестываль – гэта цудоўная магчымасць пабачыць сяброў.



**Кацярына Нікіціна, бізнес-аналітык, Мінск:**

– Хочацца больш такіх фестываляў. Падабаецца, што нельга піць спіртныя напоі паўсюль. Падабаецца ездзіць на фестываль вялікай кампаніяй сяброў.



**Сяргей Аўсянік, дырэктар кінастудыі, Мінск:**

– Мерапрыемстваў на свежым паветры. Далей ад гарадоў, ад цывілізацыі. Вельмі цудоўна, што на такіх мерапрыемствах музыка аб'ядноўвае людзей. Агульныя цікавасці заўсёды яднаюць. Заўважце, якая атмасфера пануе на свяце. Усе добразычлівыя, усміхаюцца.



**Ганна Горн, навучэнка, Мінск:**

– Я думаю, што трэба больш фестываляў. А ад такіх застаюцца прыемныя ўспаміны пра лета і цяпло на ўвесь год.

**Падрыхтавалі Наталля ТУР, Настасся РОЎДА.**

**Артыкул пра фестываль у Шаблях чытайце на 6-й старонцы.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 32 (1006) 8.08.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення паліграфічнай дзейнасці №02385 от 23.01.14 г. да 29.03.2019. Зак. 670 . Падпісана ў друк у 10.00 7.08.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.